Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 39 (4839) 2 кастрычніка 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў X Міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета з адкрыццём юбілейнага форуму, які зарэкамендаваў сябе як адзін з яркіх музычных праектаў, накіраваных на захаванне і папулярызацыю твораў класічнага мастацтва. «Фестываль радуе нас жанравай разнастайнасцю і віртуозным майстэрствам удзельнікаў, бо на беларускай зямлі збіраецца сапраўднае сузор'е талентаў з розных краін свету — ад легендарных зорак да таленавітых маладых выканаўцаў», — адзначана ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы ўдастоіў высокіх дзяржаўных узнагарод кіраўнікоў расійскіх сродкаў масавай інфармацыі за значны асабісты ўклад у стварэнне агульнай інфармацыйнай прасторы і развіццё беларуска-расійскага супрацоўніцтва ў сферы журналістыкі. Ордэнам Пашаны ўзнагароджаны генеральны дырэктар «Российской газеты» Павел Нягоіца, ордэнам Францыска Скарыны — галоўны рэдактар гэтага выдання Уладзіслаў Фронін. Шэф-рэдактар газеты «Союз. Беларусь — Россия» Вольга Герасіменка адзначана медалём Францыска Скарыны.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў удзельнікаў і гасцей XIV Міжнароднага музычнага фестывалю «Залаты шлягер-2015» з адкрыццём форуму, які стаў яркай падзеяй у сучасным культурным жыцці Беларусі. «Дзякуючы «Залатому шлягеру» мы маем унікальную магчымасць пачуць лепшыя творы мінулых гадоў», — адзначаецца ў віншаванні. Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што гэты фестываль паслужыць умацаванню творчых зносін музыкантаў розных пакаленняў і краін.

✔ Фотавыстаўка БелТА «Суверэнная Беларусь: эпоха дасягненняў» адкрылася ў Гомелі ў кінатэатры імя Калініна. Гэтая экспазіцыя — састаўная частка аднайменнага фотапраекта БелТА, які на кантрасце архіўных і сучасных работ фотакарэспандэнтаў агенцтва ілюструе змяненні, што адбыліся ў Беларусі за апошнія 20 гадоў. Выстаўка пабывала ўжо ў Брэсце, Гродне, дэманструецца ў Мінску.

✔ Прадстаўнікі васьмі кінашкол Беларусі, Расіі, Эстоніі, Чэхіі, Польшчы і Кубы пазмагаюцца за ўзнагароду «За лепшы фільм конкурсу маладога дакументальнага кіно» XXII Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад». Будзе прадстаўлена 26 кароткаметражных і сярэднеметражных фільмаў.

✔ Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Яфіма Карскага адзначае 185-годдзе. У межах святкавання юбілею чытачам прапануюць пазнаёміцца з самаробнымі кнігамі, якія ўпершыню прэзентаваліся ў Шчучыне падчас Дня беларускага пісьменства. У хуткім часе іх можна будзе ўбачыць у Нацыянальнай бібліятэцы. У аддзеле мастацтва ладзіцца выстаўка «Кнігі, якія чыталі нашы продкі!», дзе прадстаўлены рэдкія выданні з фондаў кніжніцы і прыватных калекцый.

ISSN 0024-4686



# Бібліятэка і творца. Адкрыты дыялог

**Сустрэча кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі з супрацоўнікамі Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк і Цэнтралізаванай сістэмы дзяржаўных публічных бібліятэк г. Мінска прайшла ў сталічным Доме літаратара. Такое мерапрыемства ладзілася ўпершыню. На парадку дня — праблемы і прапановы, датычныя сумеснай працы СПБ і бібліятэчнай сістэмы сталіцы па прапагандзе творчасці пісьменнікаў Беларусі.**



*Фота Кастуся Дробава.*

*Мікалай Чаргінец уручае ўзнагароду Таццяне Швед.*

Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец заначыў: мэта сустрэчы — прадаставіць людзям магчымасць больш чытаць, а для гэтага трэба прымаць канкрэтныя меры, адна з якіх — рэгулярныя рабочыя сходы кіраўніцтва СПБ і прадстаўнікоў кніжніц. Плануецца праводзіць іх штогод.

— Супрацоўнікі бібліятэк — гэта людзі, якія ведаюць літаратуру і папулярызуюць яе сярод насельніцтва. Аднак яшчэ трэба навучыцца вызначаць сапраўдную літаратуру, лепшыя творы, трэба выпрацаваць сумесны падыход да вырашэння гэтай праблемы, — падкрэсліў Мікалай Іванавіч. — Да таго ж сёння бібліятэкі здольныя абслугоўваць сотні тысяч карыстальнікаў на аснове новых тэхналогій.

Чытайце на стар. 2 ▶

# Лёс, які не паўтарыць




**Ён сябраваў з Кузьмой Чорным, быў вучнем Янкі Купалы і часта атрымліваў кнігі ў падарунак ад Кандрата Крапівы. А з блізкім прыяцелем Броўкам з-за аднолькавых імёнаў і сугучных прозвішчаў іх нават блыталі, таму сябры дамовіліся: Броўка стане Петрусём, а ён, Глебка, будзе падпісваць свае творы толькі як Пётр, ці Пятро. Яшчэ шмат успамінаў, цёплых слоў на адрас паэта, выдатнага творцы, вучонага, акадэміка Акадэміі навук БССР Пятра Глебкі прагучала падчас юбілейнай вечарыны «І закрасуе скрозь шыпшына…», што прайшла ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі пры падтрымцы Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Сёлета мы адзначылі 110-годдзе з дня нараджэння гэтага таленавітага паэта, вучонага, шчырага і чулага чалавека.**

### САРДЭЧНЫ ГАСПАДАР І НЕЧАКАНЫ ГОСЦЬ

ЦНБ імя Якуба Коласа невыпадкова стала месцам правядзення імпрэзы да юбілею Пятра Глебкі. Менавіта ў гэтую ўстанову часткова — у 1979 годзе, цалкам — пасля смерці жонкі творцы была перададзеная надзвычай каштоўная бібліятэка, якую Пётр Глебка збіраў усё жыццё, і яго асабісты архіў. Тут жа захоўваецца і мемарыяльны кабінет акадэміка, дзе ўся мэбля, прадметы знаходзяцца на тых жа месцах, як і пры яго жыцці. Кнігазбор Пятра Глебкі налічвае больш як 3 тысячы асобнікаў рэдкіх і каштоўных выданняў.

Чытайце на стар. 9 ▶

## *Дайджэст*

• Рымскі мастак Бенедэта Маркучы вырашыў пытанне захавання помнікаў культуры літаральна: ён закансерваваў 55-томную італьянскую энцыклапедыю. Так у рымскім музеі мастацтва *MARKO* з'явіўся новы ўнікальны экспанат: шклянкі, запоўненыя алеем, у якіх захоўваюцца кнігі. Для тары спатрэбілася паўтоны шкла, а для стварэння адмысловых паліц — тона каштану. Да ўсяго — каля трох соцень літраў алею.

• Марк Льюісан, англійскі пісьменнік, працуе над трохтомнікам, які падрабязна распавядзе пра жыццё гурта «The Beatles». Першая кніга пад назвай «Tune in» ужо выйшла ў Вялікабрытаніі. Другі том плануецца выдаць не раней за 2020 год. Цяпер Льюісан збірае неабходны матэрыял.

• Кінакампанія *Disney* пачне працу над новай экранізацыяй казкі «Мэры Попінс». Мяркуецца, што стужка пакажа падзеі, якія адбываюцца пасля апісаных у рамане Памэл Трэверс. Рэжысёрам карціны прызначаны Роб Маршал, аўтар «Піратаў Карыбскага мора: На дзіўных берагах» і «Мемуараў гейшы». Варта зазначыць, што Трэверс стварала кнігі пра Мэры Попінс да 1989 года, але чытачы прынялі толькі самыя першыя гісторыі.

• Амерыканскія навукоўцы стварылі плашч-невідзімку, натхніўшыся прыкладам з кніг пра Гары Потэра. Вынаходніцтва можа прымаць любыя формы і сапраўды робіць чалавека нябачным. Дасягнуты такі эфект дзякуючы аптычнай ілюзіі: матэрыял, з якога зроблены плашч, змяшчае нанаантэны, якія прапускаюць святло ці ствараюць люстраны эфект. Плашч не патрабуе падзарадкі, а функцыю нябачнасці пры жаданні можна адключыць.

• Іспанскі дызайнер Вікторыя Кантрэрас выпусціла лінію ўпрыгажэнняў з літаратурных афарызмаў. Біжутэрыя выкананая з акрылу, праца праводзіцца на лазерным станку. Зазвычай упрыгажэнні выконваюцца ў чорным колеры, што падкрэслівае кантраст між скурай і літарамі. Цытаты падаюцца на мове арыгінала: ужо існуе біжутэрыя «ад» Самюэля Бекета, Вірджыніі Вульф, Шарля Бадлера.

• Лонданская газета «*The Times*» паведамляе: адзін з найлепшых баскетбалістаў сучаснасці Карым Абдул-Джабар напісаў кнігу ў суаўтарстве са сцэнарыстам Аннай Уотэрхаус — і распавядае кніга пра Майкрафта Холмса, брата слыннага дэтэктыва. Выданне так і называецца — «Майкрафт Холмс». Кніга карыстаецца велізарным поспехам у брытанскага чытача.

• Расію чакаюць бібліятэчныя рэформы. Глава Міністэрства культуры РФ Уладзімір Мядзінскі лічыць, што неабходна перагледзець функцыянаванне бібліятэк, бо сёння яны фактычна выконваюць ролю кнігасховішчаў. А гэта замінае развіццю бібліятэк. Так, неабходна разгледзець ідэі, якія б вярнулі людзям зацікаўленасць культурнымі каштоўнасцямі. На думку У. Мядзінскага, бібліятэкі мусяць стаць культурна-адукацыйнымі цэнтрамі з вялікай колькасцю паслуг. Рэформы ўжо ўводзяцца ў Маскве.

• У цэнтральнай гарадской бібліятэцы Магілёва адкрылася выстаўка, прысвечаная беларускаму алфавіту, — «Літаразнайства» Паўла Сідаровіча. Графічныя малюнкі выстаўленыя ў вокнах бібліятэкі. Кожная праца ўяўляе мастацкую кампазіцыю на асобна ўзятую літару беларускага алфавіта: мастак адштурхоўваўся ад пэўнага сімвала ці прадмета, спалучаючы іх між сабою «чалавечкам». Графіку Паўла Сідаровіча ўжо бачылі ў асобных гарадах Віцебшчыны і Магілёўшчыны, у Гомелі. Калі выстаўка скончыць падарожжа па Беларусі, мастак падорыць яе музею Уладзіміра Караткевіча ў Оршы.

• Белаазёрск прыняў у сябе паэтычныя чытанні «Бабіна лета з Нінай Мацяш». Тут адбылася прэзентацыя дзвюх новых кніг паэтэсы, у якіх — паэзія і пераклады, публіцыстыка і інтэрв'ю, лісты і віншаванні.

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Бібліятэка і творца. Адкрыты дыялог

Дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы дзяржаўных публічных бібліятэк г. Мінска Алена Кубышкіна закранула пытанне камплектавання публічных кніжніц. Сёння бібліятэкі ўкамплектаваны, але роля чытання ў жыцці чалавека змянілася. Звузілася кола чытачоў — сярод іх нестае моладзі, прадстаўнікі якой аддаюць перавагу электроннай кнізе. Аднак у бібліятэках ёсць і чытаецца сучасная беларуская літаратура. Карыстаюцца попытам і кнігі, якія выдаюцца ў Расіі.

— Сёння мы працуем напрамую з выдавецтвамі, у ліку якіх — Выдавецкі дом «Звязда», «Мастацкая літаратура», «Чатыры чвэрці», «Харвест», — заўважыла Алена Віктараўна. — Вядома, беларуская бібліятэка павінна пачынацца з нацыянальнай кнігі. Так, ва ўсіх сталічных публічных бібліятэках ёсць кнігі серый «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі», «Мінскія маладыя галасы». Галоўны наш партнёр у прасоўванні айчыннай кнігі — Мінскае гарадское аддзяленне СПБ на чале з Міхасём Пазняковым. З мінулага года па сёння ў бібліятэках прайшло больш як 200 літаратурных сустрэч з членамі СПБ.

Паводле дырэктара Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк г. Мінска Таццяны Швед, тут шмат робяць дзеля далучэння дзяцей да кніжніц і чытання, прапаганды беларускай мовы і літаратуры. Ад таго, як бібліятэка сустрэне маленькага грамадзяніна, залежыць, ці стане ён чытачом. Акрамя таго, дзяржава надае вялікую ўвагу камплектаванню бібліятэчных фондаў. Дзякуючы Міністэрству інфармацыі краіны ў спіс сацыяльна значнай літаратуры абавязкова ўключаюцца творы для дзяцей.

На думку доктара філалагічных навук, прафесара Івана Саверчанкі, дзяржава і СПБ ствараюць максімальна спрыяльныя ўмовы для раскрыцця творчага патэнцыялу пісьменніка, з'яўлення добрых літаратурных твораў. Пра дзейнасць і фонды школьных бібліятэк распавялі прадстаўнікі Мінскага гарадскога інстытута развіцця адукацыі — метадысты Святлана Ціманюк і Валянціна Паграбіцкая, пра кнігі маладых аўтараў і працу бібліятэк з творчай моладдзю — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Сакратар СПБ Георгій Марчук заклікаў супрацоўнікаў бібліятэк як мага часцей праводзіць пісьменніцкія сустрэчы.

Начальнік гандлёвага аддзела ААТ «Белкніга» Святлана Гук зазначыла: прадпрыемства працуе практычна з усёй літаратурай, якая выдаецца ў Беларусі і адразу ж трапляе на паліцы кнігарань. Сярод кніг, што выпускаюцца за ўласныя сродкі аўтараў, ёсць шмат якасных выданняў. Пры канцы сустрэчы Мікалай Чаргінец унёс прапанову прадумаць сістэму ацэнкі кніг і абмену рэкамендацыямі наконт таго, якія кнігі варта чытаць і перавыдаваць. Прагучалі і ноткі заклапочанасці не заўсёды прадуманым скарачэннем колькасці бібліятэк. Як адзначыў Мікалай Чаргінец, назіраюцца факты, калі зачыняюцца кніжніцы ў дастаткова буйных населеных пунктах. Між тым бібліятэка — не проста скарбніца ведаў, але і інструмент выхавання, самаадукацыі праз кнігу. Ад скарачэння колькасці бібліятэк мы нічога не выйграем: у грамадстве пабольшае негатыўных з'яў і яшчэ больш людзей адвернецца ад кнігі, пераканаы Мікалай Іванавіч. Была выказана думка і пра недахоп літаратуры для школьнікаў, які прывёў да вывучэння твораў па канспектах.

Дыпломамі СПБ узнагароджаны публічныя бібліятэкі № 1, № 3, № 10, № 11, № 13, № 14 і № 15, з дзіцячых — № 5, № 9 і № 16. Граматы СПБ атрымалі загадчык публічнай бібліятэкі № 7 імя Якуба Коласа Людміла Каляда і загадчык дзіцячай бібліятэкі № 15 Ірына Дзевалтоўская. Ганаровы знак «За вялікі ўклад у літаратуру» атрымалі Алена Кубышкіна і Таццяна Швед, а таксама загадчыкі публічных бібліятэк: № 5 — Алёна Калейнік, № 21 — Нэлі Казак, № 22 — Наталля Ярашэвіч, загадчыкі дзіцячых бібліятэк № 4 і № 6 — Людміла Бусел і Тамара Патук.

Прынята рашэнне штогод праводзіць конкурс на лепшую бібліятэку і бібліятэкара з уручэннем адпаведных узнагарод і прэмій.

**Яна ЯВІЧ**

## *За падзеяй*

# На шляху да святыняў

**Удзельнікі 22-й навукова-асветніцкай экспедыцыі «Дарога да Святыняў з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподня», якая штогод прымяркоўваецца да Дня беларускага пісьменства, завіталі ў Мінскі гарадскі адукацыйна-аздараўленчы цэнтр «Лідар», каб падзяліцца са школьнікамі ўражаннямі.**



*Слова ўзяў Яўген Пясецкі.*

Сярод гасцей — загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка, галоўны спецыяліст Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі паэтэса Іна Фралова і вядучы фотакарэспандэнт аддзела фотаілюстрацыі Выдавецкага дома «Звязда» Яўген Пясецкі.

Гісторыю падзеі коратка распавёў Яўген Пясецкі. Свой аповед ён праілюстраваў цікавымі фотаздымкамі, дакладней, кадрамі фотахронікі, што ўдалося зрабіць падчас сёлетняй экспедыцыі. Святло Непагаснай Лампады пранеслі праз Баранавіцкую зямлю, а пасля рушылі на Гродзеншчыну.

На фота — манастыры, цэрквы, капліца, пабудаваная яшчэ ў 1861 годзе. Ёсць здымкі, на якіх — панарама Іерусаліма, Брама Ірада, рака Іардан…Падчас сустрэчы з вучнямі Я. Пясецкі прачытаў і ўласныя вершы, якія з'явіліся пад уплывам вандроўкі.

Для Лідзіі Шагойка пабачаныя мясціны, святыні і людзі сталіся сапраўдным адкрыццём. Экспедыцыя прайшла амаль праз 20 населеных пунктаў — і ўсюды ладзіліся цікавыя сустрэчы са школьнікамі, навучэнцамі, студэнтамі. Іна Фралова падчас імпрэзы ў «Лідары» прачытала свой верш «Агмень душы — нязгасная лампада», напісаны пад уражаннем ад паездкі.

**Арына КРАЙКО**

## *Прынятыя ў СПБ*



**Алена Уладзіміраўна БАСІКІРСКАЯ**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 22 жніўня 1989 г. ў г. Полацку Віцебскай вобласці. Скончыла завочнае аддзяленне факультэта беларускай і рускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Настаўнічала на Глыбоччыне. Цяпер — карэспандэнт рэдакцыі раённай газеты «Міёрскія навіны». Аўтар паэтычных зборнікаў «Споведзь» (2014) і «Песня мая душэўная» (2015).



**Таццяна Барысаўна МАЦЮХІНА**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 6 чэрвеня 1984 г. ў г. Барысаве Мінскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт і магістратуру Белдзяржуніверсітэта, аспірантуру Інстытута мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Настаўнічала ў Барысаве. Цяпер — навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Аўтар кнігі вершаў «Адчуць гармонію душы» (2015).

Ёсць пытанне

# Артэрыі жыцця — дарога ў свет

**Некалькі дзён у Кітаі прынеслі процьму ўражанняў і падказак у рабоце на заўтра. Як у прасторы медыйнай, так і ў кірунках літаратурным і кніжніцкім. Нас, гасцей з 60 краін свету, сабралі на міжнародны форум, арганізаваны газетай «Жэньмін жыбаа». Прыехалі прадстаўнікі больш як 150 выданняў. З Беларусі — ад «Звязды», «СБ. Беларусь сегодня», БелТА.**

### АДЗІН ПОЯС, АДЗІН ШЛЯХ

Газета і кіраўніцтва КПК (быў і прыём адным з сямі членаў Палітбюро КП Кітая) сабралі журналістаў з усяго свету, каб яшчэ раз пацвердзіць сённяшні вектар развіцця Кітая, паказаць, куды скіраваны яго памкненні. Яшчэ раз нагадалі ўсяму свету словы старшыні КНР спадара Сі Цзіньпіна пра ініцыятыву стварэння «адзінага эканамічнага пояса Шаўковага шляху», выкладзеныя ім у Казахстане яшчэ ў 2013 годзе. Кітай шукае і вызначае партнёрства па прасоўванні сваёй і іншых азіяцкіх краін прадукцыі ў Еўропу. Пад гэтыя памкненні і спраектаваны многія справы, гэтыя праекты ўлічваюцца ў міжнародных стасунках Паднябеснай.

Відавочна, што разам з прасоўваннем эканомікі, вытворчасці Кітая ў іншыя краіны будзе больш шырока крочыць па свеце і кітайская культура. Не ўлічваць гэтага нельга. Размовы з кіраўнікамі самых розных масмедыя, а таксама з кітайскімі калегамі па цэху пераконваюць: калі жадаеш разгледзець увесь свет, то да атрымання і распаўсюджвання інфармацыі стаўся супольна, шукай партнёраў на гэтым шляху. Інакш губляюцца хуткасці, а то і шырыцца скажонасць, недакладнасць. Пра гэта мы гаварылі і з даўнімі сябрамі з Казахстана — дырэктарам агенцтва Казінфарм Даўрэнам Дзіяравым, намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Казахстанская правда» Сабітам Малдабаевым. Яны — частыя госці ў Беларусі, удзельнікі традыцыйных мінскіх інфармацыйных форумаў. Дарэчы, гандлёвы тавараабарот паміж Кітаем і Казахстанам сёння складае 22 млрд долараў ЗША. Безумоўна, спрыяе гэтаму тэрытарыяльная блізкасць, агульная кітайска-казахстанская мяжа працягласцю 1700 кіламетраў.

А з боку марскога ўзбярэжжа Кітай выбудоўвае «Марскі шаўковы шлях», дзе галоўным партнёрам Паднябеснай выступае Інданэзія.

Многія выступоўцы на форуме гаварылі пра вартасці стварэння новага іміджу Кітая і кітайцаў. Часам жа (гэта датычыць самых розных краін Еўропы, Амерыкі) большасць матэрыялаў у інфармацыйнай прасторы на гэтую тэму складаюць негатыўнага характару паведамленні. Што ж, каб быць праўдзівым — трэба яшчэ і на свае вочы пабачыць. Таму бакі дамаўляліся пра абмен карэспандэнцкімі пунктамі, пра тое, што гатовыя прадаставіць умовы для працы журналістаў у доўгатэрміновых камандзіроўках.

Заканчэнне на стар. 12 ▶

Імпрэзы

# Гукі і словы роднай зямлі

Мерапрыемства для жыхароў Першамайскага раёна горада Мінска «Мы тутэйшыя, родная Беларусь» адбылося ў дзіцячай бібліятэцы № 10. Удзельнікамі і гледачамі вечара былі пераважна школьнікі. Патрыятычным выхаваннем падрастаючага пакалення трэба займацца ад школьнай парты, адзначыла загадчыца бібліятэкі Юлія Сярмяжка.



Выступае Генадзь Аўласенка.

У імпрэзе ўзялі ўдзел творчыя калектывы дзіцячай школы мастацтваў № 13. Дырэктар установы Андрэй Чарапко адзначыў, што, акрамя сусветна вядомых класікаў, у школе развучваюць і творы беларускіх кампазітараў, напрыклад Глебава, Манюшкі. Навучэнцы школы мастацтваў № 13 прадэманстравалі гледачам майстэрства ігры на розных музычных інструментах: балалайцы, флейце, фартэпіяна, скрыпцы, гітары.

Выступіў таксама вельмі чаканы госць — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Бярозка» Генадзь Аўласенка. Ён расказаў пра часопіс і заклікаў школьнікаў ствараць «Бярозку» разам. Генадзь Пятровіч распавёў, што перад тым, як стаць літаратарам, доўгі час працаваў у школе настаўнікам хіміі і біялогіі, прачытаў свае вершы.

А напрыканцы сустрэчы супрацоўнікі кніжніцы прачыталі творы пра Беларусь.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

З нагоды

# Дзякуй за крытыку!

**На працягу верасня Інстытут журналістыкі БДУ святкуе юбілей вядомага тэатральнага крытыка, доктара філалагічных навук, заслужанага журналіста Беларусі Таццяны Арловай.**



Таццяна Арлова з Генадзем Аўсяннікавым.

Выкладчыкі кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі, дзе працуе Таццяна Дзмітрыеўна, на чале з загадчыкам кафедры Людмілай Саянковай арганізавалі вялікае свята ў Медыятэцы імя прафесара Міхаіла Цікоцкага з удзелам сяброў, калег па «цэху», студэнтаў і ўсіх жадаючых павіншаваць прафесара з юбілеем.

Імпрэза пачалася са святочнага відэафільма, у якім выкладчыкі і загадчыкі кафедр, галоўныя рэдактары газет і часопісаў, мастацтвазнаўцы і проста сябры Таццяны Дзмітрыеўны віншавалі яе з васьмідзесяцігоддзем. Пасля фільма юбілярку віталі госці, сярод якіх — вядомыя дзеячы мастацтва: народны артыст СССР Генадзь Аўсяннікаў, народныя артысткі Беларусі Таццяна Мархель і Бэла Масумян, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Валерый Анісенка. Яны дзякавалі Таццяне Дзмітрыеўне за працавітасць, інтэлігентнасць, майстэрства знайсці асаблівасці ва ўсім, на што яна звяртае ўвагу.

Кожнае віншаванне — гісторыя розных часоў, з рознымі сітуацыямі і падзеямі, дзе галоўную ролю, нават і не трэба здагадвацца, выконвала Таццяна Дзмітрыеўна! Усе госці раскрывалі і адчувалі яе неяк па-свойму, але заўважна, што ўсіх іх аб'ядноўвае павага і любоў да гэтага чалавека.

Таццяна Арлова прыйшла працаваць у Інстытут журналістыкі ў 1972 годзе. Праз яе рукі прайшло шмат таленавітых і вядомых асоб, удзячных ёй не толькі за ўрокі мастацтва, але і ўрокі жыцця.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Лірыкай акрыленыя

Імпрэза «Мінск — мае крылы», прымеркаваная да Года моладзі, прайшла ў сталічнай бібліятэцы № 11. Удзел узялі паэтэсы, сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі Яна Явіч, Анастасія Кузьмічова і Таццяна Мацюхіна.

Творцаў публіцы представіла паэтэса, член СПБ Аліна Легастаева. Так, Яна Явіч завітала ў кніжніцу не ўпершыню. Гэтым разам не толькі чытала вершы, але і распавядала пра свае спробы ў дзіцячай прозе.

Анастасія Кузьмічова піша вершы яшчэ са школы. Паэтычны зборнік «Быть может меня приютят?» выйшаў у 2005 годзе, а дыск вершаў «Яхідна» — у 2011-м. У яе творчасці — тэмы першага кахання і здрады, прыгажосці чалавечай душы, шчырага сяброўства, блізкія і зразумелыя кожнаму.

Вершы Таццяны Мацюхінай глыбока патрыятычныя, падкрэсліваюць прыгажосць роднага краю. Сёлета ў серыі сталічнага аддзялення СПБ «Мінскія маладыя галасы» выйшаў яе першы зборнік вершаў «Адчуць гармонію душы».

На сустрэчу прыйшлі старшакласнікі СШ № 43. А прыканцы прагучала лірыка Аліны Легастаевай у аўтарскім выкананні.

**Анжэла ПРАЖАН**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**6 кастрычніка** — *на літаратурнае свята «Паэтычны аўторак» у Мінскім гарадскім навучальна-аздараўленчым цэнтры «Лідар» (г. п. Ждановічы). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**6 кастрычніка** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхася Пазнякова. Мерапрыемства пройдзе ў СШ № 136 (вул. Сердзіча, 5). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**7 кастрычніка** — *на літаратурнае свята «Мамін воблік родны, мілы самы…» з удзелам паэтэсы Ніны Галіноўскай. Імпрэза адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**8 кастрычніка** — *у літаратурны клуб «Жывое слова» пры СШ № 56 (вул. Каменагорская, 70). Кіраўнік клуба — пісьменніца Наталія Касцючэнка. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**9 кастрычніка** — *у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак работы а 14-й гадзіне.*

# Дзівосы…

Матэматык, які малюе? А чаму б і не! Кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт Валянціна Ранцэвіч — яскравы прыклад: выстаўка яе твораў «Малюй, мастак, увекавеч дзівосы» адкрылася ў сталічнай бібліятэцы № 12.

Валянціна Аляксееўна скончыла механіка-матэматычны факультэт Белдзяржуніверсітэта і аспірантуру Інстытута матэматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. За яе плячыма дзесяцігоддзі выкладчыцкай працы — спачатку ў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце, пасля — у Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі, дзе і па сёння працуе дацэнтам кафедры вышэйшай матэматыкі. На даследчыцкім рахунку Валянціны Аляксееўны — больш як 50 навуковых і навукова-метадычных прац.

Захапленне Валянціны Ранцэвіч жывапісам пачалося… з навагодняга падарунка сына — фарбаў і пэндзля! Раней яна займалася яшчэ і фларыстыкай. Наведвала студыю выяўленчага мастацтва пры Палацы прафсаюзаў. З 2004 года — удзельніца творчых выставак супрацоўнікаў БДУІР, у 2006-м удзельнічала ў гарадской выстаўцы, што праходзіла ў Палацы мастацтва, а ў 2014-м — у выстаўцы «Загадкавы свет жаночага мастацтва» ў галерэі «Вільнюс», дзе чатырма гадамі раней адбылася яе першая персанальная выстаўка «Малітва зямной прыгажосці». Сёлета ж персанальная выстаўка Валянціны Ранцэвіч прайшла ў Нясвіжскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П. Пранузы. Работы мастачкі-аматаркі знаходзяцца ў прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Германіі, Італіі.

З-пад пэндзля В. Ранцэвіч «выходзяць» пераважна кветкавыя кампазіцыі: «Вясновы букет», «Незвычайныя кветкі», «Півоні», «Цюльпаны», «Кветкі палявыя» — заўважныя, аднак, навыкі фларыста!

**Яна ЯВІЧ**



## Рэгіна РЭЎТОВІЧ

### Квадрат даверу

*І хто радкі дыктуе мне,*
*Якім я веру?*
*Малюе промнік на акне*
*Квадрат даверу.*

*Шукаю Музы ноты я*
*У тым квадраце,*
*І з мрой плыве мелодыя*
*Па соннай хаце.*

*Пяшчотнай песні чысты гук*
*Душу кранае,*
*Радочак, выбраўшыся з мук,*
*У снах лунае...*

### Кніга жыцця

*Прыйдзе час — забаліць*
*і заные душа...*
*Дзесь на мройнай мяжы ценяў*
*кружыцца зграя,*
*Там нbackздзейсненых мар*
*і расстанняў імша —*
*На жалейцы самота*
*расчулена грае.*

*Прыйдзе час сумаваць*
*па чародцы хацін,*
*Дзе жабрачкай самота*
*і сёння блукае.*
*Там, калісьці адрокшыся*
*любых мясцін,*
*Сэрца горасна маму*
*з нябыту гукае.*

*Прыйдзе час шкадаваць*
*безліч страчаных дзён,*
*Дзе памылкамі крэсліў свой*
*пошук высновы,*
*Дзе не змог і не выспеліў*
*здатнасці плён...*
*Толькі кнігу жыцця не напішаш*
*нанова.*

*А пакуль — ты шануй усё тое,*
*што ёсць,*
*Што яшчэ не абрынула ў бездань*
*спакуса.*
*Прыйдзе час... А пакуль — кожны*
*з нас толькі госць*
*На зямлі, дзе жывём мы*
*надзейным хаўрусам.*

### Не шкада

*Узмах буслінага крыла*
*І жаўрука срэбрагалоссе*
*Малюе ў думках зноў рука,*
*Малюе золата калосся,*

*Блакіт ільну, адхон, палын,*
*Праз жыта вузкую сцяжынку,*
*І над рачулкай рэтрамлын,*
*Дзе так даўно, яшчэ дзяўчынкай,*

*Глядзець любіла на ваду*
*І слухаць булькат апантаны...*
*Нібы праз жыта зноў іду*
*У час, жыццём рэдагаваны.*

*Але былога не шкада —*
*Яно жыве! Яно не знікла! —*
*Як па каменьчыках вада,*
*Цячэ ў душы павольна, звыкла...*

### Нараджэнне верша

*Быццам марывам позірк туман*
*ахінуў,*
*Ціск у скронях адчайна пульсуе,*
*Прагна творчасці вір закруціў,*
*зацягнуў*
*У глыбіні, дзе думка вандруе...*

*Між узбдыбленых хваль*
*рыфмаваных стыхій,*
*Там, дзе ў лодцы эмоцый*
*трывожна,*
*Дзе пазначаны пробліскам*
*часу шляхі —*
*Думка поўніць радок асцярожна.*

*Адгукнуцца праро́цтвам*
*мінулыя сны,*
*Закрыляе анёлам натхненне,*
*І скрозь мукі сумнення, трывогі,*
*віны*
*Прыйдзе радасны міг*
*нараджэння.*

*І, смакуючы шчасця гаючы*
*глыток,*
*Занатую памкненняў надзею,*
*Намалюю радком запаветны*
*куток,*
*Дзе заўсёды душой маладзею.*

### Вечнае свята пяшчоты

*Одум з былога прынёс*
*Водгалас светлай самоты...*
*Вецер з галінак строс*
*Лёгкай мелодыі ноты...*

*Мне б дакрануцца душой*
*Да незваротных імгненняў,*
*Ды за далёкай імжой*
*Любай пары летуценне.*

*Мой салаўіны куток —*
*Рэха святой прыгажосці,*
*Фарбаў чароўных выток —*
*Быццам таемнае штосьці...*

*Зноў успамінам плыве*
*Вэлюм вясновае цноты,*
*Песняй у сэрцы жыве*
*Вечнае свята пяшчоты!*



## Мікола СТАРЧАНКА

### Бабіна лета

*Зачапіла провад павуціна*
*І вісіць, на ветрыку*
*трапеча.*
*Бабінага лета кавуціна*
*Ўсё пяе паціху мне*
*аб нечым.*

*Сонейкам прыпалшчаная*
*трохі,*
*Павуцінка белая лунае,*
*А канец нязведаной дарогі*
*Хмарка ледзь наплыўшая*
*хавае.*
*Хочацца не верыць*
*у прыкметы*
*І зайздросціць вечнай*
*маладосці...*
*Прыйдзе, прыйдзе цёплае*
*шчэ лета,*
*На душы трывожна толькі*
*штосьці.*

### Чырвоная кніга прыроды

*Чырвоная кніга прыроды —*
*Не радасць твая, чалавек,*
*А вынік празмернай*
*свабоды,*
*Дзе правілі скнапнасць*
*і здзек.*

*Ты ходзіш у футрах,*
*алмазах,*
*Ты ездзіш на хуткім аўто,*
*Забыцца ты хочаш*
*у джазах,*
*У шуме валютных вятроў.*

*Ты хочаш... Ды толькі*
*прырода*
*Спакою табе не дае —*
*Былая твая асалода*
*У горычы дзён растае.*

*Чырвоная кніга прыроды —*
*Сумлення запознены крык...*
*Плямёны, істоты,*
*народы —*
*Сціскае душу пералік.*
*Былі, застаюцца,*
*знікаюць...*
*Няўжо ж у які-небудзь век*
*Дзе-небудзь яшчэ*
*прачытаюць,*
*Што жыў на зямлі*
*чалавек?!*

### Родны парог

*Дзе б ні быў я, як гасцінна б*
*Ні прымаў мяне сусед,*
*Родная мілей хаціна,*
*Дзе майго маленства след.*

*Роднага мілей парога*
*Месца ў свеце не знайсці:*
*Ад яго мая дарога*
*Здолела у свет пайсці.*

*Тут застаўся смех дзіцячы,*
*Гульняў першыя гады,*
*Дабрадушны гнеў юначы,*
*Першы поспех малады.*

*Вывела мяне дарога*
*За бацькоўскі за парог,*
*Я пазнаў парогаў многа —*
*Да свайго любоў збярог.*



Фота Кастуся Дробава.



## Алена МІХАЛЕНКА

### Зорная песня

*Цішыня ў манастырскім*
*двары.*
*Над усім уладарыць Бог.*
*Ледзьве чутны, чуцён угары*
*Зорак двух трапяткі дыялог.*

*Позірк кінеш на іх найпрост*
*І пабачыш (пільней зірні!):*
*Працягнулі праз прорву мост*
*Небазорныя прамяні.*

*І стрымаеш слязу наўрад,*
*Як малітвы твой лёс саткуць.*
*Так празрыста звініць*
*далягляд,*
*Зоркі славу Тварцу пяюць.*

### Летні вечар

*Вечар стамлёна прылёг*
*на двары*
*Коткаю шэрай.*
*Ліпень прайшоў, як вандроўнік*
*стары,*
*Строгі не ў меру.*

*Хутка і жнівень няўзнак*
*праміне,*
*Скончыцца лета.*
*Зноў задажджыць,*
*ды не хочацца мне*
*Думаць пра гэта.*

*Хочацца проста свой лёс*
*вымяраць*
*Не міражамі —*
*Жыць на зямлі і душой*
*адчуваць:*
*Я — не чужая.*

### Дзіцячая малітва

*Хлопчык стаіць прад іконай,*
*Сціпла, пакорна стаіць.*
*Цёпла наўкол і спакойна.*
*Свечка так ярка гарыць.*
*Моліцца хлопчык да Бога,*
*Слоў не сціхае рака.*
*Ў гэтай малітве так многа*
*Просіць душа хлапчука.*
*Бедным, нямоглым — манету,*
*Радасці — тым, хто ў журбе.*
*Просіць дабра ўсяму свету*
*І анічога — сабе.*

***

*— Ты даведацца хочаш, якая?*
*Што ж, запісвай тады,*
*пачынай!*
*Я звычайная, я гарадская,*
*Я люблю скрыгатлівы*
*трамвай;*
*Бляск шыкоўна-таемных*
*залаў,*
*Шолах лісця і посвіст машын,*
*Мітусню самых розных*
*вакзалаў,*
*Тэлефонных званкоў несупын;*
*Ціхаспеў выпадковай гітары,*
*І царкву у святле ліхтароў,*
*І нягучную радасць на тварах*
*Маіх даўніх і новых сяброў.*

*Я сказала не ўсё, безумоўна,*
*Ды прызнаюся як на духу,*
*Што яшчэ я, магчыма,*
*лясоўна,*
*Нават дзікая, можа, крыху.*
*Я магу размаўляць безупынку*
*То з вятрамі, то з ніцай*
*травой*
*І з калючай яловай галінкай*
*Абдымацца, нібыта з сястрой.*
*Шчыра веру, што збудуцца*
*мары,*
*І не плачу, бадай, ні аб чым —*
*Я свой сум аддаю шэрым*
*хмарам,*
*Хай дажджом праліецца*
*грыбным.*

*Што яшчэ расказаць табе?*
*Скора*
*Ўжо не будзе марозлівых зім...*
*Не пытай мяне толькі*
*пра горы —*
*Я пра іх шчэ не ўмею зусім.*
*Кожны год, бы ў святыя*
*харомы,*
*Як на споведзь сваю*
*прад сабой,*
*Адыходжу — не вінна нікому —*
*Ў непрыступна вялікі спакой.*
*Горы лепш за людзей, будзе*
*ў спіну*
*Вецер біць, не шкадуючы сіл,*
*І снягі замятуць, не абдымуць*
*Проста так, калі сэрцу не міл.*

*Вось і ўсё. Пра сяброў і работу*
*Гаварылі мы бліз і здаля.*
*Ты хацеў разгадаць мяне?*
*Вось я...*
*Пачынай жа хоць зараз з нуля.*

### У начным лесе

*Нібыта параджэнне пустаты,*
*Мой спадарожнік неяк*
*недарэчы*
*Мне прапануе перайсці*
*на «ты»...*
*Хаця навошта? Скончаны*
*сустрэчы...*
*Як дзіўна — анікога анідзе.*
*Сцяжынкі нейк злучыліся*
*адразу.*
*Хай гэты дождж да раніцы*
*ідзе,*
*Пытанні заглушае і адказы.*

*Глыбінны сэнс шукаем у цішы,*
*А ноч бярэ надзейна на парукі.*
*Ці ж гэта грэх, што ў пошуках*
*душы*
*Дранцвеюць пераплеценыя*
*рукі...*

*Ды ранак свой выносіць*
*прыгавор:*
*Мы, як раней, ледзь-ледзь*
*знаёмы з Вамі...*
*Адно дажджом затушаны*
*касцёр*
*Цалуецца з намоклымі*
*дрывамі.*

**Пераклаў з рускай мовы**
**Мікола ШАБОВІЧ**

Аляксандр БРЫТ



Аляксандр Брыт — празаік, аўтар зборніка «Кіно» (Выдавецкі дом «Звязда», 2013), куды ўвайшлі 7 апавяданняў і прытча. Увазе чытачоў «ЛіМа» — апавяданне «Японскае вяселле», якое ў аўтарскім перакладзе на рускую мову пабачыла свет у вераснёўскім нумары часопіса «Нёман».

# Японскае вяселле

Іх раздзяляла дарога. Шаша ўрывалася пад колы з далёкага разгону і глухім шматгучным матывам нудна адгукалася ў салоне.

У аўтобусе ён сядзеў у правым радзе, а яна — у левым, і абодва глядзелі ў розныя бакі. Паблізу праносіліся краявіды: вёсачкі, раллі, аўтазапраўкі, палоскі лесу.

Неба было цяжкім і шэрым. Як кухонная соль. Востры вецер нашчэнт агольваў дрэвы. І толькі па правым баку, напрыканцы далягляду, затухаў разліты сіняк асенняга сонца.

Дарогі маюць свае асаблівасці. Яны абгінаюць зямлю, разгаліноўваюцца. Вядуць да мэты. Часам заводзяць у тупікі і лабірынты. Перакрыжоўваюцца. Аб'ядноўваюць і раз'ядноўваюць.

Некалі гэта дарога іх аб'ядноўвала. Жанчына была закаханай і шчаслівай, быццам страказа, якая бесклапотна завісла над духмяным полем у спякотны дзень. І мужчына быў яе сонцам. А цяпер яны сядзелі ў розных радах і не звярталі адно на аднаго ўвагі. Час ад часу ён драмаў, а яна разглядала дагледжаныя ногці, корпалася ў сумачцы, гартала смартфон.

У маленькім гарадку яны пераселі на іншы аўтобус, і тут усё адмянілася. Яны селі побач і пачалі гаварыць.

— Ты абяцаў, — яна сцяла губы.

— Няўжо? — ненатуральна здзівіўся ён.

— Так! Я цябе папярэдзіла.

— Зразумеў. Не дурань… — Ён скептычна ўсміхнууўся і паківаў галавой. — Навошта табе гэтае шоу?

— Я табе ўжо ўсё сказала.

Аўтобус скрыгатаў і ўздрыгваў. Адмерваў дарогу коламі. Дымеў і пыхкаў. Праз хвілін дваццаць цяжка падняўся на мост, і ўнізе яны ўбачылі Нёман. Мінаючы рэдкія выспы, рэчка люстранай стужкай знікала ў цьмянай далечыні.

— Радзіма, — сказаў ён. — Прыехалі.

— Памаўчы, — абарвала яна, і яе іскрыстыя вочы раптам ператварыліся ў маленькія лункі, залітыя смалой, што кіпела. Ён зноў усміхнуўся, але неяк млява, бяскроўна. Яна пайшла да выхада.

Цесць стаяў на другім баку шашы, каля пералеску. Убачыў іх і, прапусціўшы аўтобус, накіраваўся насустрач.

— Мінулай ноччу мне прыснілася, што я вярнулася ў Мэндэрлі, — праспявала яна і агледзелася, удыхаючы водар хваёвай ігліцы пасля дажджу. Гэта было фішкай: ёй падабалася ўстаўляць у гутарку фразы з любімых кніг.

— Крыху больш пачуццёвасці ў голасе, — сказаў ён з'едліва. — А таксама менш цытат. Тут не зразумеюць.

Адказаць яна ўжо не паспела. Па-сваяцку расцалаваліся з бацькам:

— Добры дзень, татка. Ну, як вы тут?

— Вось… памаленьку.

Цесць паціснуў яму руку, узяў адну з сумак, і яны пайшлі па дарожцы ўздоўж зарослых лесам могілак. Па левым краі адкрывалася вёска: падтопленая туманам, з водарам выспяваючай антонаўкі, з фіялетавым дымам самотных комінаў.

Каля самай хаты, абляпіўшы высакавольтныя правады, спусцілі галовы пташкі: галкі, вароны, вераб'і. Іх было так шмат і выглядалі яны настолькі зацікаўленымі, што здаваліся зусім не пташкамі, а гледачамі ў кіназале.

Цешча ўжо накрывала стол — чакала.

Дасталі з сумкі каньяк, шампанскае, чырвоную ікру, алівы, печань траскі. Дзіўная кулінарная кампазіцыя. Каньяк утаропіўся на талерку тушонкі. Бульба, запечаная ў печы, разглядала ікру. Шампанскае побач з кавалачкамі сала і высмажанай да залацістай скарынкі яечняй.

— Зараз мы з табой вось гэтай пачастуемся, — сказаў цесць і наліў з нейкай старой бутэлькі дзве чаркі. — Своя. Ведаеш, з якога часу хаваю? З таго, як ты сватацца прыязджаў.

— Пятнаццаць гадоў вытрымкі… Шкляное вяселле… — сказаў і выпіў.

— А што? — усміхнуўся цесць. — Добрая?

— Добрая…

Усё тут было як пятнаццаць гадоў таму. Мала што змянілася. Тая ж хата. Тыя ж людзі. Цесць у адпрасаванай кашулі, з закасанымі на запясцях манжэтамі. З высокім ілбом. Нешматслоўны. Сівы. Пільны, быццам рысь. Цешча… Ціхая жанчына с выцягнутым тварам. З вачамі колеру ёду. Яцвягі. Заходняя Беларусь.

Пасля трэцяй чаркі нешта ў ім зрушылася, быццам у люстэрках пачалі адбівацца іншыя людзі, іншыя твары. Не разумеў, навошта ён тут. Што ён робіць побач з гэтай чужой жанчынай? Чаму згадзіўся гуляць у яе гульні? Як так атрымалася, што спагадлівая шатэнка ператварылася ў ганарыстую пафарбаваную бландзінку? Нельга было нават і ўявіць, што менавіта гэтая жанчына калісьці з асаладай займалася музыкай, цудоўна іграла на скрыпцы, была ў захапленні ад свайго земляка Чэслава Немэна і бясконца напявала яго песні…

*«Wiem, że nie wrócisz…» «Nie jesteś moja…» «Czy mnie jeszcze pamiętasz?»*.

Няўжо гэта яна? Што ў іх агульнага? Той мілай дзяўчынкі болей няма. І ніколі не будзе. Засталася жанчына, якая абкляла яго з усіх бакоў умовамі, шантажом, пагрозамі. Яна жадае, каб ён знік з яе жыцця, пакінуў ёй усё, не ўлазіў у яе любоўныя справы. О'кей. Яна жадае, каб ён апошні раз сыграў ролю яе мужа. Якія складанасці? Яна жадае адсвяткаваць японскае вяселле — пусціць пыл у вочы сваім бацькам… Ды бог з ёй! Няхай робіць што хоча! І нічога не шкада. І шкада так шмат...

Ён піў з метадычнай абыякавасцю. Прыслухоўваўся да няспешнага, разважлівага голасу сталага чалавека — цесця — і механічна нешта адказваў, усміхаўся. Ужыўшыся ў ролю добрай актрысы, яна (нават на імгненне прыабняўшы яго) сказала ўсё, што хацела сказаць: ён паедзе на гады два-тры за мяжу, добрая прапанова, неразумна адмаўляцца… ой, мамачка, гэта касмічная прапанова! — мы ўжо ўсё вырашылі…

О'кей, ён не пярэчыў, намагаўся глядзець на яе вачамі закаханага мужа, а яна лгала як дыхала. Адзін раз толькі паспрабаваў адкрыць рот і нешта ўставіць, але адразу наткнуўся на яе вочы, у якіх ужо закіпала смала. Губы ў яе несамавольна сцяліся, скулы прыкметна пазначыліся пад скурай, быццам баялася ўпусціць ужо схопленую здабычу, — і ён перадумаў.

Наступіла амаль драпежнае напружанне. І раптам яно пачало напаўняцца дзіўным гукам. Гук гэты то ўзрастаў, то паступова заціхаў. Але справа не ў тым. Гук выліваўся з гартані так тонка і востра, што здавалася, ён разразае скуру, тканкі, сасуды, быццам хірургічны скальпель. Гэта было надрыўнае бязмежнае выццё забітай горам жывой істоты.

— Але ж і самотны. Як ноч, дык рады няма, — сказаў цесць і патлумачыў: — Жук скуголіць… Прыма трапіла на шашы пад машыну…

Суседскую дварняжку Прыму ён памятаў: маленькая, вяртлявая, галасістая. А Жук… Жук быў проста цудоўны. Увесь чорны, з багатай іскрыстай поўсцю, з разумнымі вачыма — ласкавы, ветлівы сабака. Крыху нязграбны, як малады мядзведзь. Ды надзвычай прывабны і адданы.

Цесць загрукаў крэслам, сабраў са стала аб'едкі.

— Пайду дам яму трохі. Можа, супакоіцца…

— Але ж, мае дзеткі, — уздыхнула цешча. — Ну, буду слаць вам ложак…

Яна вяла пазяхнула і ўсміхнулася маці (у яе было шмат усмешак, але менавіта гэту яна прыхоўвала для тэатра).

— Ой, мамка, сцялі паасобку, я змарылася з дарогі.

…Ноччу ён прачнуўся. Ляжаў з расплюшчанымі вачыма, бязмэтна глядзеў у столь, потым павярнуўся на бок і насупраць, па лініі няшчыльна захінутай фіранкі, распазнаў у цемры яе матавую галёнку, якую яна ў сне міжвольна скінула з ложка. Ён устаў і, хістаючыся, выйшаў у сені, прагна папіў вады, апрануў ватоўку, што прапахла цяжкім потам і выпаленай печкай.

На падворку, не дайшоўшы да прыбіральні ля хлява, пастаяў каля плота, прытрымліваючыся рукой за штакеціну. Месяц адбываў. Ноч была зябкай, але яснай, чыстай і зорнай. Яблыні крывымі галінамі драбілі ўльтрамарынавае неба. Ён глыбока ўздыхнуў і выдыхнуў водар прынёманскага паветра. Спачатку хацеў пайсці назад да хаты, але пачуў, як за плотам бразнуў ланцуг. Жук пераскочыў у загародку, дзе стаяла будка, а адтуль праз невялікую адтуліну вылез на яго бок. І заскуголіў ціха, перарывіста, быццам хацеў падзяліцца нечым значным, але баяўся, што яго не выслухаюць і пойдуць.

— Жук, ну што ты, разу-умны… — нецвяроза працягнуў ён і падышоў, сеў каля плота побач з сабакам.

Жук падвываў, тыкаўся халодным носам яму ў шыю і твар, перабіраў буйнымі лапамі і запалена дыхаў.

— Жук, Жук, бе-едны, сумуеш… Пры-ымы няма, так? Няма Прымы?

Сабака, быццам яму наступілі на лапу, заскуголіў дробна, надрыўна, тонка.

— Ах ты, мой ро-одны… валацуга, — заплятаючыся, сказаў ён і абняў сабаку за шыю, прыціснуў да сябе шчакой і адчуў вільгаць яго цёплых вачэй. Потым узяў яго галаву ў рукі, пры святле месяца зазірнуў у мокрыя сабачыя вочы і п'яна прызнаўся: — Твая Прыма разумніца… Дакладна табе кажу… Разу-умніца… А мая… актрыса кручаная… сына ў мяне хацела адабраць… Сына!..

Ён неяк нечакана скрывіўся, панік, апусціў рукі, і сабака, які стаў пярэднімі лапамі на яго каленях, жаласна паскуголваючы, пачаў вылізваць яму шурпатым языком твар. А ён усё паўтараў на розныя лады:

— Сына я ёй не аддам! Сына я не аддам! Не аддам ёй! Гадам буду…

Страціўшы раўнавагу, ён заваліўся на бок пад плот, падаючы, прыціснуў сабаку, і той з віскам адскочыў. Потым устаў на карачкі, няўпэўнена падняўся на ногі.

— Прабач, Жук… Я — спаць… І ты таксама… спі… Не бядуй.

Сабака дробна заскуголіў, нецярпліва прысеў, падскочыў і, перабіраючы пярэднімі лапамі ў паветры, нацягнуў ланцуг і паспрабаваў дацягнуцца да яго мордай.

…Раніцай ён ляжаў у ложку з заплюшчанымі вачыма, павярнуўшыся на бок да сцяны, слухаў, як размаўлялі дачка і маці: фанерная перагародка амаль не глушыла гукі.

— Ой, мамка, тры мільёны цяпер нішто… Каб хаця мільёнаў восем-дзевяць…

— Але ж, дзеткі мае, — глуха ўздыхнула цешча. — Дзіўны гэты свет… Куды ж такія грошы?

— Ён паедзе, а мне адной сына гадаваць… — адказала яна.

Чуў, як цешча слініла пальцы і адлічвала грошы, блыталася, зноў пералічвала. Нарэшце яны выйшлі ў сені, і праз сілу ўстаў, пачаў апранацца, змагаючыся з перагарнай млоснасцю. Насупраць стаяла шафа са старым, месцамі з'едзеным часам люстэркам, і ён назіраў за сабой: як цяжка і нязграбна апранаўся лахматы, з мятым тварам, змораны чалавек.

Бразнула клямка дзвярэй, і ўвайшоў цесць.

— Устаў ужо?

— Так…

— А тут… Бяда проста з гэтымі сабакамі… Жук павесіўся…

— Як павесіўся? — Яму здалося, што цесць перапіў і пусціўся ў абсурд. На імгненне ён нават уявіў, як Жук зацягвае на шыі пятлю і адпіхвае заднімі лапамі зэдлік…

— Ах, каб яго… Гэта ж ён так перажываў, бедны… Скакаў праз штыкетнік… за штыкеціну кальцом зачапіўся… Пойдзем, дапаможаш.

Яны выйшлі на двор. Дзень быў хмарны. Ледзь адчувальна секла імжа. На голых высакавольтных правадах віселі буйныя дажджавыя кроплі і час ад часу абрываліся ўніз.

Пташкі кружыліся ў нізкім небе і крычалі, як сляпыя кацяняты.

Жук вісеў каля самага плота, як перакошаная баксёрская груша. Чорная пастка яго была прыадкрыта, з яе звісаў доўгі сіні язык.

— Шкада… добры сабака быў, — сказаў цесць. — Паглядзі, там пад страхой брызент ёсць. І рыдлёўку вазьмі пад паветкай...

Паклалі мёртвае сабачае цела на брызент і пайшлі з надворка да маладога асінніку, што выцягнуўся непадалёку ад краю ўзаранага тлустага поля.

Цесць умела высек дзёран, акуратна, па-гаспадарску паклаў яго ўбок і пачаў няспешна капаць. Зямля была мяккая, зрэдку пападаліся тонкія карані. Жорстка іх абсякаючы, раўняў перыметр магілы. Дастаў запалкі, чыркнуў і прыкурыў. Выпусціў з рота дым, сказаў:

— Тут і Прыма ляжыць.

Сапраўды, у дзёрне, побач з магілай Жука, была прытаптаная пралысіна, якая ўжо прасела, але яшчэ не зарасла травой.

Не выпускаючы цыгарэты, прыжмурыўшыся, цесць нагнуўся, узяўся за краі брызента і вывернуў сабачае цела ў выкапаную яму. Лапы мёртвага сабакі стукнуліся аб краі магілы, і дробны пясок абсыпаўся на чорную поўсць.

Цесць неглыбока зацягнуўся і дастаў з рота цыгарэту.

— Калі паедзеце?

— Сёння.

— Сёння? Можа, пабылі б яшчэ…

— Не... Трэба ехаць…

— Глядзіце самі… А што ж спіце паасобку?

Ён уздыхнуў.

— Такая ў нас любоў…

Цесць паглядзеў на яго спакойна і халодна.

— Якая ж гэта любоў… Вось у іх была любоў… У Прымы з Жуком. Ну, чаго ты чакаеш… Закапвай.

# Горад кантрастаў

**Вялікая спакуса замест агляду № 9 «Полымя» падзяліцца ўражаннямі ад новай часткі прыгод Пранціша Вырвіча, героя авантурна-прыгодніцкіх раманаў Людмілы Рублеўскай. Але давядзецца пачакаць, калі новы раман — гэтым разам пра здрадніка і канфедэрата — будзе апублікаваны цалкам.**




На Міколу Шабовіча восень паўплывала класічна: сум па былым, мроі, туга па страчаным каханні. Гэтак жа як і восеньскі настрой, вершы яго быццам і навяваюць сум, але значнага следу ў душы не пакідаюць.

Пасля такіх тэкстаў вельмі нечакана з'яўляецца аповесць Міхася Пазнякова «Выйсце заўсёды ёсць…». Пасля — зноў лірыка: Соф'я Шах выступае ў звыклым амплуа аўтара санетаў. Нават больш: яна друкуе вянок санетаў. Не змяняецца і тэма: жыццё ў рэлігійным кантэксце.

І зноў кантраст, які, з аднаго боку, прыцягвае ўвагу, з іншага — бянтэжыць. Ірына Лявонава прапануе вашай увазе апавяданне «Ціхі адпачынак у "Лагуне Біч"», а пачынаецца апавяданне так: «Міла Іванаўна Дзмітрава, маёр міліцыі ў адстаўцы…». Адно гэта ўжо наводзіць на думкі пра дэтэктыў — прычым такі яго від, як масавы, з ухілам да іроніі, абсалютна разняволеным стылем. І сапраўды, гераіня, выправіўшыся на адпачынак, робіцца сведкам дзіўнай гісторыі і спрабуе ў ёй разабрацца. Твор відавочна напісаны пад уплывам рускамоўных тэкстаў падобнага гатунку. Што ж, беларускай літаратуры патрэбныя розныя творы.

А пасля — зноў раптам! — пераклад «Прыпавесцей ды загадак» Фрыдрыха Шылера з тлумачэннямі. І тое, і другое — праца Андрэя Касцюкевіча.

Такі вось стракаты вераснёўскі нумар.

**Адам БЕЛЬЧЫК**

# Восеньскі калейдаскоп

**З вераснёўскага нумара часопіса «Нёман» пастаянныя чытачы даведаюцца, чым скончыўся раман Веры Зелянко «Добрапрыстойнае жыццё». Каб не парушыць інтрыгу, скажу толькі, што ніводнага шчаслівага персанажа ў творы так і не з'явілася.**




Многія паэты натхняюцца творчасцю Максіма Багдановіча: хтосьці вобразамі, хтосьці вершаванай формай, бо класіка — гэта вечна і заўсёды актуальна. Вось і Ізяслаў Катляроў напісаў свой вянок санетаў пад інтрыгуючай назвай «Эхо зова». Не толькі назва, але і самі вершы загадкавыя, глыбокія, філасофскія — чым не класічная паэзія? Даўно такога не даводзілася чытаць.

А вось падборка вершаў Міхаіла Кулеша «Зреет колос в лучах солнца жаркого» прываблівае лірычнасцю, неверагодным меладычнасцю, лёгкай настальгіяй і прыемным сумам. Пры гэтым творы патрабуюць пэўнай падрыхтаванасці ад чытача, бо, не ведаючы легенд, алюзіі ў некаторых вершах могуць быць не зразумелымі. Але рэдактарскія спасылкі выратуюць чытачоў «Нёмана».

Дзякуючы цудоўным мастацкім творам Рымы Арцем'евай можна крыху наблізіцца да далёкага Казахстана і зразумець таямнічы ўсходні народ. А казахскія навукоўцы С. Б. Булекбаеў і А. Ж. Сейдуманаў распавядаюць пра ўсе тонкасці і перапляценні ў гісторыі еўразійскай інтэграцыі.

Смелай і вострай публіцыстыкай парадаваў Уладзімір Макараў. У артыкуле «Войны века: постмодернистские технологии» падымаецца адно з самых важных і актуальных на сённяшні пытанняў — высокаінтэлектуальная зброя і інфармацыйная вайна. Аналізуючы гісторыю, выяўляючы пэўныя тэндэнцыі, Уладзімір Макараў прыходзіць да высновы, што наперадзе чалавецтва чакае самая страшная і складаная вайна — бітва з самім сабой, у якой перамога альбо чалавек, або нетакратыя, якая знішчыць рэальнасць як прастору для творчасці і самарэалізацыі. Але аўтар шчыра верыць, што перамажа чалавек і яго высокая культура.

Самае цікавае ў любой дакументальнай літаратуры — гэта мемуары, дзённікі і перапіскі. У вераснёўскім «Нёмане» можна пачытаць дыялог беларускага пісьменніка Мікалая Лобана і перакладчыка яго раманаў Яўгена Мазалькова. У лістах Мазалькова адлюстроўваюцца яго погляды на асаблівасці перакладу з беларускай мовы на рускую, якія існавалі ў той час. Шмат хто з рускіх перакладчыкаў, асабліва маскоўскіх, бачыў у беларускай мове дыялектны варыянт рускай, таму ніякіх беларусізмаў не пакідалі. І Лобан, і Мазалькоў лічылі такі падыход няправільным. Яўген Сямёнавіч вітаў, калі перакладчык уводзіў беларускае слова, якое добра ўкладвалася ў рускі тэкст. Мазалькоў не толькі прыслухоўваўся да пажаданняў Лобана, але і даваў яму кампетэнтныя парады адносна назваў кніг, характарыстыкі персанажаў, асаблівасцей працы з маскоўскімі выдавецтвамі. І такое супрацоўніцтва мела выдатны вынік: раманы Лобана сталі папулярнымі сярод чытачоў СССР, а стасункі пісьменніка і перакладчыка перараслі ў сапраўднае сяброўства.

Крытычныя артыкулы пацешылі сваёй разнапланавасцю: для тэатралаў — артыкул Зоі Лысенка пра Свярдлоўскі акадэмічны тэатр аперэты, які цяпер на гастролях у Мінску; аматараў музыкі чакае матэрыял Святланы Берасцень, прысвечаны знакамітаму цымбалісту-віртуозу Яўгену Гладкову; а для тых, хто чакае літаратурнай крытыкі, — рэцэнзіі. Як кажуць, кожнаму — сваё.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# «Мы ведалі ноч, але не баяліся ночы...»




Нумар літаратурнага часопіса — заўжды своеасаблівы свет, у якім ролі размеркаваныя прыкладна гэтак жа, як і ў звычайным соцыуме: ёсць бунтары і завадатары, ёсць тыя, хто бярэ на сябе ролю мудрага ментара, тыя, хто адасабляецца ад усіх і застаецца сам-насам з марамі. Ёсць навукоўцы і фантазёры. Часам ролі супадаюць у адной асобе.

І вось якраз такі выпадак: Аляксандр Змушко — для калег, Саша Тэмлейн — для чытача. Псеўданім аўтара не проста дзіўнае сугучча: Тэмлейн у стараанглійскай культуры — гэта юнак, якога выхавалі эльфы. І літаратурнае імя празаіка робіцца часткай яго творчасці. У «Маладосці» № 9 вы можаце пазнаёміцца як з самім аўтарам, так і з яго аповедамі. Саша Тэмлейн — уважлівы назіральнік, які назапашвае ўражанні і перастварае іх у сімвалы: горад у яго — проста Горад, чалавек — Чалавек. Імёны неістотныя. Істотна іншае: страх быць непрынятым такім, як ты ёсць; самаахвяраванне — з любові, мужнае і шчырае (якое, дарэчы, фігуруе ў двух апавяданнях з трох). Не ведаючы, хто аўтар, можна лёгка ўявіць, што тэкстам гэтым дзвесце ці трыста год.

Незвычайныя і вершы Паўла Дарохіна, але вылучаюцца яны інакш: не гармоніяй, а яе наўмысным парушэннем. Павел Дарохін разбурае звыклую сістэму вобразаў, каб стварыць сваю. Але ў тым і бяда: гэтае супраціўленне, аўтарскае намаганне выпінаецца ўперад думкі, самога твора. Аднак пошук гэты можа даць вялікі плён!

Галоўнае — не пакінуць чытача абыякавым. Гэтага дасягнула і Вольга Паўлюкевіч, 21-гадовая аўтарка. Вядома, вершы. Вядома ж, каханне. Асобныя радкі яшчэ выбіваюцца з вобразнай сістэмы, якую спадарыня Вольга складае (а складаецца яна з моцнай сувязі з Прыродай, трошачку — з біблейскімі матывамі, а збольшага — традыцыйным для нашых паэтаў паганскім светапоглядам). Але толькі асобныя радкі, бо, прыкладам, «Камяні» — гэта ўжо сталы твор, пра які не скажаш «практыкаванне»:

*…ты сабе — апошні цяжкі*
*валун, комін сэрца ды галава*
*сівая.*

Альбо радкі «мы ведалі ноч, / але ўжо не баяліся ночы» з верша «Стварэнне чалавека».

Другі фантаст у нумары — Сяргей Белаяр (аповесці «Выратавальная місія» і «Полюс недаступнасці»). Аўтар застаецца верны сабе: усе яго героі — ва ўзрушаным стане, які часам даходзіць да шаленства; размаўляюць яны на павышаных тонах (колькасць клічнікаў у тэксце змушае міжволі напружыцца); за драматычнымі падзеямі маячыць прывідная надзея на лепшае.

Вершы Алісы Мінінай нагадваюць тэксты для блюзавых кампазіцый — і па настроі, і лёгкім і ў той жа час цягучым радком. Леанід Леванoвіч прапаноўвае падарожжа ў гісторыю імя «былога дырэктара торфабрыкетнага завода, а цяпер, як ён сам кажа, хранічнага пенсіянера Пятра Андрэевіча Кузьміцкага», тым самым зняўшы з сябе паўнамоцтвы пісьменніка: разняволіўшыся, аўтар піша ў стылі, блізкім да размоўнага. І абсалютна нязменнай застаецца лірыка Анатоля Зэкава.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Слова vs графіка

**У дзявятым нумары «Вожыка» мастакі і літаратары не саступаюць адно аднаму ў дасціпнасці і арыгінальнасці. Першыя — Аляксандр Каршакевіч, Пётр Козіч, Уладзімір Чуглазаў, Мікола Гіргель, Вікенцій Пузанкевіч і іншыя — стварылі непаўторныя карыкатуры і міні-коміксы, якія можна пабачыць у рубрыках «Бізнес-класікі», «Тур карыкатур», «Сам сабе рэвізор».**




А што пісьменнікі? Так, пабачыў свет цэлы россып пародый Дзмітрыя Пятровіча, Анатоля Зэкава, Віктара Кунцэвіча і Алы Клемянок. Пра парадоксы ў штодзённым жыцці распавядаюць Лёля Багдановіч і Мікола Маляўка, балесную тэму медыцыны закранае Уладзімір Цыркуноў.

Хапае і празаічных твораў: былі Аляксея Русіновіча і Аляксея Буцько, «усмешкі» Віктара Лоўгача, Міхала Шульгі, Кастуся Карнелюка, замалёўкі з натуры Віталя Жураўскага… Ці афарызмы Барыса Кавалерчыка: «І летам цікава ведаць, дзе ракі зімуюць».

Артыкул Наталлі Кульгавай на злабадзённую тэму — гатовы сюжэт для фантастычнага рамана, дзе ёсць дэман падману і несумленны прадпрымальнік.

Верасень багаты на юбіляраў. «Вожык» віншуе з «круглымі» і «паўкруглымі» датамі пісьменнікаў-гумарыстаў Івана Стадольніка і Аркадзя Жураўлёва, мастака-карыкатурыста Алега Папова.

Чарговая міні-кніжка, якую чытач атрымлівае «бонусам» з вераснёўскім нумарам, называецца «Вясёлы перапынак» і прысвечаная школе. Міхась Мірановіч у «Міранізмах» піша пра краіны Гватэмала і Гватэмнога, пра адкрытыя і закрытыя законы, фараона Пірамідона, мары піянера ды іншае, а далучаюцца да яго Лёля Багдановіч, Святлана Быкава, Вацлаў Хадасевіч, Валянціна Бабко-Аляшкевіч і Міхась Пазнякоў. Багата на старонках міні-кніжкі анекдотаў ды афарызмаў славутых людзей. І, вядома ж, малюнкаў, у якіх карыкатурысты адлюстравалі вясёлае школьнае жыццё.

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

Творчы партрэт

# «Ад вятроў не згінацца»: паэзія вышыні



**Пра гераіню партрэта амаль няма афіцыйных звестак, таму, каб даведацца пра яе жыццё і лёс, я звязвалася з яе сваякамі і сябрамі. Марыя Гудкова — першы аўтар, на творчасць якога я напісала водгук падчас літвучобы, калі актыўна наведвала літаб'яднанне.**

Я, васямнаццацігадовая «паэтка» (якой тады сябе лічыла), атрымала заданне купіць любую ўпадабаную кнігу паэзіі і, прачытаўшы, падзяліцца з чытачамі думкамі.

Чаму ўвагу прыцягнула менавіта тая сціплая кніжачка з чорна-белай вокладкай (М. Гудкова. Уголас. Мінск, Мастацкая літаратура, 1995)? Малюнак (цёплая летняя ноч на хутары, побач — рэчка ці возера, у зарасцях чароту «спачывае» лодка і, падаецца, чутно стракатанне цыкад) адпавядаў майму ўяўленню пра ідэальны адпачынак і час натхнення. Гэта была другая кніга аўтара. Першая выйшла на пяць гадоў раней (М. Гудкова. Віра. Мінск, Мастацкая літаратура, 1990).

Асноўнае, чым кіравалася падчас напісання рэцэнзіі — не пакрыўдзіць, не дазволіць ніводнага выразу, які б мог «утаптаць у зямлю» ці выклікаць у душы аўтара балючыя перажыванні, бо галоўным у тым зборніку быў «крык» пра дапамогу; падавалася, што паэтэса балансуе паміж безданню адчаю і штодзённым існаваннем, кожнае імгненне вырашаючы для сябе пытанне жыцця і смерці (Т. Будовіч. Бясконцая песня жыцця. Першацвет, 1996, № 1).

Марыя Міронаўна Гудкова сёлета магла б святкаваць юбілей: ёй споўнілася б 60 гадоў. Нарадзілася ў 1955 годзе ў вёсцы Убалоцце Бабруйскага раёна. У 1972-м скончыла Туголіцкую сярэднюю школу, затым — ГПТВ-60. Працавала машыністам вежавага крана на будоўлях Бабруйска. Два разы была замужам, маці дваіх дзяцей.

*Паэтэса-кранаўшчыца, яна здабывала штодзённы хлеб цяжкай, рызыкоўнай працай. Каб жыць, ёй неабходна было пісаць, пераўтвараючы перажытую рэальнасць у паэтычны свет, узвышаны, рамантычны, зіхоткі, як мара. А рэальнасць не шкадавала.*

Сябры згадваюць Марыю чалавекам выключна добрай, шчырай душы, гатовым падзяліцца апошнім. Яна абвострана рэагавала на ўсякую несправядлівасць, на сацыяльныя жахі перабудовы 90-х гадоў, усё прымала вельмі блізка да сэрца. Калегі па пяры мяркуюць, што Гудкова была самай таленавітай з бабруйскіх паэтаў. Прыходзіла на пасяджэнні творчай суполкі пасля працоўнага дня ў сваёй будаўнічай робе, безабаронная, як шэры верабейчык, і даверлівая. Для яе тыя сустрэчы былі глытком свежага паветра, сілай жыць і змагацца. Больш слухала іншых, чым выступала сама. Вось як яна вызначала свой жыццёвы настрой у тыя часы:

*Хістаюся, шукаючы апору,*
*Гайдаюся між небам і зямлёй,*
*І вышынёю праганяю змору,*
*І сунімаю боль свой вышынёй.*

Паэтэса-кранаўшчыца, якая здабывала штодзённы хлеб цяжкай, рызыкоўнай працай. Каб жыць, ёй неабходна было пісаць, пераўтвараючы перажытую рэальнасць у паэтычны свет, узвышаны, рамантычны, зіхоткі, як мара. А рэальнасць не шкадавала. Не складвалася асабістае жыццё, цяжка хварэў малодшы сын, існавалі непаразуменні з блізкімі. Яна ж, быццам адна супраць усяго свету, у сваёй кабіне на небяспечнай вышыні змагалася за свой лёс і лёс сваіх дзяцей, ды пры гэтым і жартавала, ствараючы яркія, арыгінальныя вобразы.




## На кране

*Я працую на вежавым кране.*
*Не баюся такой вышыні.*
*Сонца ў кабіну загляне.*
*Пажартуе: «Стралой не крані!»*

*Кран і рукі цяплом паглянцуе…*
*Усміхаецца сонцу зямля.*
*Калі з сонцам у пару працуем,*
*Будзе дом самы светлы пасля!*

Дзе прафесія зніто́ўваецца з паэзіяй, апаэтызоўваецца зусім не рамантычная праца на будоўлі, мы пераконваемся: паэзія — ва ўсім, але толькі сапраўдны паэт можа яе ўбачыць.

## Начная змена

*Шыпіць электразварка*
*Пад кранам*
*Сярод ночы.*
*Як дробязная сварка,*
*Часова слепіць вочы.*

*Вятрамі скрозь прашыта,*
*Цягну за тонай тону…*
*Жаночы лёс нібыта*
*Прабіўся з-пад бетону.*

*Было б жыццё, а слава…*
*Я позірк долу кіну —*
*Зноў месяц так ласкава*
*Заглядвае ў кабіну.*

А вось яшчэ як апісвае М. Гудкова свае працоўныя будні ў вершы «Мой дзень»:

*Даносяцца каманды:*
*«Майна!», «Віра!»*
*Мужчыны ў касках,*
*быццам бой ідзе.*
*Ды камандзір няважны з брыгадзіра.*
*Спрачаемся*
*Увесь цалюткі дзень.*
*І словы нецэнзурныя ў паветры*
*Гарластымі варонамі снуюць.*
*Іх пазбягаюць чуйныя паэты.*
*Інтэлігенты іх не прызнаюць.*

З выпрабаванняў жыцця склалася яе асабістая філасофія (верш «Роздум»):

*Трэба жыць! —*
*І заплакаць ад болю,*
*І наперад да мэты ісці,*
*Ад вятроў не згінацца ніколі,*
*Пад дажджамі ў дарозе расці.*

*Трэба многа сцяжынак праклаcці,*
*Каб пасля ў нейкі міг зразумець:*
*На шырокай дарозе упасці —*
*Недарэчная, страшная смерць.*

Яна не магла не думаць пра смерць, бо смерць «хадзіла» побач, і філасофія, якая вырасла з гэтага, пазбаўлена жаласлівых сантыментаў:

*Калі б не існавала старасць,*
*Згадзіцеся,*
*Крыўдна было б*
*Абарваць жыццё*
*Няшчасным выпадкам.*

Радкі, якія немагчыма чытаць без шчырага спачування і адчування болю за лірычную гераіню, агаляюць напятыя, як цецива лука перад стрэлам, пачуцці і робяць нас сведкамі жыццёвай драмы аўтара:

*Ты — святло маіх дзён,*
*Быў. Няма цябе. Пэўна, так трэба.*
*Засталося блакітнае неба.*
*Памяць цепліць вачэй тваіх лён,*

*Што дагэтуль ласкава цвіце*
*Пад залевамі, сонцам гарачым.*
*Час тваё падабенства азначыў —*
*Вунь дачка-прыгажуня расце.*

Боль і страты далі разуменне чужой душы і чужога болю. Паэтэса быццам перасцерагае быць больш уважлівымі да тых, хто побач:

*Як не хапае пры жыцці*
*Спагады чалавечае*
*Усім, каму яшчэ ісці*
*Ад раніцы да вечара!*

Нашы лёсы знітаваныя, мы залежым адно ад аднаго, хаця не заўсёды гэта ўсведамляем. Таму важна бачыць і адчуваць не толькі сябе, але і свайго бліжняга:

*…Яшчэ адно збавенне — тыя людзі,*
*Што не дадуць да рыскі падысці…*

Сама ж М. Гудкова была не раз ля той «рыскі», а ў апошнія гады жыцця знаходзілася там пастаянна, таму яна пераконвае найперш самую сябе, што жыццё вартае таго, каб з ім не развітвацца:

*Жыццё —*
*Кароткі сон нібыта.*
*Сон мімаволі абарвеш —*
*Зямлі не ўбачыш больш,*
*Блакіту…*
*Любі жыццё,*
*Пакуль жывеш!*

Альбо:

*Твары дабро*
*І вер у дабрыню,*
*Калі душу*
*Калючы вецер ліжа.*

Пасля выхаду першага зборніка М. Гудкова ў інтэрв'ю дзялілася сваімі творчымі планамі («Паэзія — гаючая вадзіца ў ёмкасці, дзе не бывае дна…» Магілёўская праўда, 1993. — 29 красавіка).

Новы зборнік паэзіі меркавала назваць «SOS». Ён выйшаў у 1995 годзе, але атрымаў назву «Уголас». Творчы патэнцыял паэтэсы набыў большае развіццё і глыбіню, загучаў з большым драматызмам. Вершы выклікаюць светлы журботны настрой, але ў некаторых момантах разумееш, што пісаліся яны ў стане вострага душэўнага надлому. Дэпрэсіўныя і суіцыдальныя матывы не выпінаюцца, але мы іх разумеем па скупых рэмарках, раскіданых тут і там. Быццам стоячы на краі, зазірала ў бездань. Адной з любімых яе пісьменніц і блізкай сяброўкай, як згадвала ў інтэрв'ю М. Гудкова, была Я. Янішчыц. У зборніку імя Янішчыц згадваецца чатыры разы.

*Партрэцік Янішчыц*
*Стаіць як ікона*
*На восьмым паверсе*
*Кватэры маёй.*

Сябры М. Гудковай сведчаць, што ў той час у яе была не адна суіцыдальная спроба. Мінскія калегі па пяры казалі, што яна «не ўмела жыць». Для М. Гудковай было вельмі істотна сцвердзіцца ў паэзіі, атрымаць пацвярджэнне свайго таленту. Уступленне ў творчую арганізацыю было б, магчыма, выратавальнай саломінкай. Не атрымалася…

Жыццё М. Гудковай, і без таго занадта цяжкае для адзінокай жанчыны, быццам пайшло пад адхон. Не стала працы, пакінулі дзеці, яна не бачыла выйсця.

*У яе быў немалы творчы патэнцыял, але калі ў адных ёсць усё для самарэалізацыі (адукацыя, разуменне, падтрымка родных і блізкіх, матэрыяльны дабрабыт), то ў Марыі Гудковай не было амаль нічога. І ўсё ж яна здолела адчуць свой талент і рэалізаваць яго. Без сумневу, яе патэнцыял раскрыўся б значна больш, калі б для гэтага былі спрыяльныя ўмовы і, галоўнае, чалавечае разуменне.*

Загінула М. Гудкова ў 1996 годзе ў сваёй кватэры пры нявысветленых абставінах. Ва ўзросце 41 года, амаль як Янішчыц.

Подзвіг гэтай паэткі ў тым, што яна зрабіла ўсё магчымае ў цяжкіх жыццёвых умовах, каб рэалізаваць свой талент. Яна не магла жыць звычайна. У яе быў немалы творчы патэнцыял, але калі ў адных ёсць усё для самарэалізацыі (адукацыя, разуменне, падтрымка родных і блізкіх, матэрыяльны дабрабыт), то ў М. Гудковай не было амаль нічога, і ўсё ж яна здолела адчуць у сабе боскую іскрынку і рэалізаваць яе. Без сумневу, патэнцыял раскрыўся б значна больш, калі б для гэтага былі спрыяльныя ўмовы і, галоўнае, чалавечае разуменне.

Жыццё і творчасць Марыі Гудковай асацыіруецца ў мяне з музычным творам «Танец Анітры» Эдварда Грыга са знакамітай музычнай драмы «Пер Гюнт». Анітра — дачка важака качавога бедуінскага племені, з якой сустрэўся падчас бадзяжніцтва галоўны герой. Яна была прыгожай і хітрай, спрабавала зачараваць галоўнага героя сваім танцам. Музыка танца вельмі зменлівая, быццам непастаянны і насмешлівы нораў Анітры, быццам кантрасты паміж яе вонкавай прывабнасцю і ўнутранай сутнасцю. Гучаць то нізкія кароткія адрывістыя ноты, то высокія плаўныя акорды.

Такім жа кантрасным было жыццё Марыі Гудковай: яе праца, яе штодзённая барацьба за існаванне пад сонцам і тыя моманты, калі яна была сам-насам з аркушам паперы, дзе адлюстроўвала сваю жаночую, чуйную, смелую душу.

Калі сутыкаешся з такімі лёсамі, хочацца сказаць: давайце будзем больш уважлівымі, добразычлівымі і неабыякавымі да нашых родных, блізкіх, сяброў, знаёмых, суседзяў і проста да тых, з кім сустрэліся выпадкова.

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

# Канстанцін КАСЦЮЧЭНКА: «“Брама памяці” — толькі пачатак»

**Што агульнага ў скульптуры са спортам, навошта патрэбны творчыя спаборніцтвы, які лёс чакае мемарыяльны комплекс «Трасцянец» — пра ўсё гэта і не толькі распавёў карэспандэнту «ЛіМа» Канстанцін Касцючэнка. Ён, старшы выкладчык кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, сёлета заваяваў ганаровае званне «Мінчанін года» ў галіне культуры. Аўтар «Брамы памяці» — самага высокага бронзавага манумента ў краіне, які ўвекавечыў загінуўшых у канцлагерах Другой сусветнай вайны. Уладальнік шэрагу прэстыжных міжнародных і нацыянальных прэмій, стваральнік пластычных, натуральных, але з лёгкім «налётам» сюррэалізму, твораў.**


Фота Сяргея Ждановіча.
Канстанцін Касцючэнка падчас працы над «Брамай памяці».

**— Што вы, малады скульптар, адчуваеце пасля атрымання такога ганаровага звання — «Мінчанін года»?**

— У першую чаргу для мяне гэта вялікая адказнасць. Трэба будзе адпавядаць узроўню ва ўсёй далейшай творчай дзейнасці, не зніжаць планку. Наогул, такія дзяржаўныя ўзнагароды рэальна стымулююць людзей у самых розных сферах жыцця: ад прамысловасці да культуры. Адчуваю, што я і мая каманда спрацавалі недарэмна. Бо чалавек, якога ўзнагароджваюць у пэўнай галіне, увасабляе сабой вынікі ўсяго горада. Гэта вельмі прэстыжна. Калі раблю працу, у тым ліку і па дзяржаўным заказе, ніколі не імкнуся хутчэй даць справаздачу. Скульптура — гэта тое, што робіцца на стагоддзі, застаецца будучым пакаленням, таму я стараюся ўкласці ў яе і ўсю душу, і назапашаныя веды. Менавіта па скульптуры навукоўцы ацэньваюць узровень развіцця цывілізацыі: ці гэта Старажытная Грэцыя, ці Італія часоў Сярэднявечча...

**— Раскрыйце тонкасці стварэння «Брамы памяці». Колькі часу пайшло на рэалізацыю праекта?**

— Манумент я пачаў увасабляць даўно, яшчэ ў 2007 годзе, калі прыйшоў працаваць ва ўстанову Міністэрства культуры «Творчыя акадэмічныя майстэрні жывапісу, графікі і скульптуры». Для мяне стала знакавым, што на той момант майстэрні ўзначальваў народны мастак Беларусі Міхаіл Савіцкі. А маім кіраўніком па скульптуры стаў не менш геніяльны майстар — Леў Гумілеўскі. Мы ўсе, будучыя жывапісцы, графікі і скульптары, павінны былі выбраць тэму, якую распрацоўвалі б у наступныя тры-чатыры гады. Я адважыўся ўзяцца за нешта як мінімум дзяржаўнага маштабу — глыбокае і сур'ёзнае. Цэлыя тры гады рабіў эскіз. Атрымалася вось што: велізарная, ледзь прачыненая брама, дзе застылі постаці вязняў канцлагера, — як сімвал немагчымасці вырвацца з палону, перадолець смерць, увасабленне нечалавечага смутку. А ў 2010 годзе адбыўся адкрыты рэспубліканскі конкурс на стварэнне скульптурнай кампазіцыі для мемарыяльнага комплексу «Трасцянец», на якім я выставіў гэты праект — і, на дзіва, ён заняў першае месца! Самым складаным этапам было павелічэнне манумента — да 10 метраў. А гэта каля 30 тон бронзы — між іншым, метал сёння не з самых танных. Справа ў тым, што на невялікай копіі, першапачатковай рабочай мадэлі, не так бачны ўсе недахопы, хібы, несастыкоўкі… На шчасце, у мяне была выдатная каманда — выпускнікі Акадэміі мастацтваў. Адзін бы я, вядома, не справіўся.

**— Чаму вы абралі такую няпростую тэму? У Трасцянцы загінула больш як 200 тысяч чалавек — старых, жанчын, дзяцей... Што асабіста вас звязвае з вайной?**

— Абодва мае дзядулі ваявалі: адзін — у партызанскім атрадзе, а другі, той, што і сёння жывы, у пачатку вайны атрымаў вельмі сур'ёзнае раненне. Іх расповеды моцна паўплывалі, перавярнулі ў свядомасці паняцце пра вайну: нам, цяперашняму пакаленню, і ўявіць да канца немагчыма, наколькі гэта страшна. Міхаіл Савіцкі таксама шчыра дзяліўся сваімі ўспамінамі. Дзякуючы яму я канчаткова сфарміраваў для сябе вобраз будучай «Брамы памяці». Ён жа ў самым пачатку вайны апынуўся ў канцлагерах... Многія, хто бачыў маю працу на пачатковым этапе, дзівіліся: чаму вязні такія розныя, а не ўсе як адзін страшныя і худыя — хтосьці нават нармальна апрануты? Савіцкі ж зусім па-іншаму гэта ўспрымаў. Былі тыя, казаў ён, хто знаходзіўся там ужо некалькі тыдняў і выглядаў на мяжы смерці, і тыя, каго прывезлі зусім нядаўна... Выказаць усе эмоцыі трагедыі, робячы акцэнт на тое, што ад людзей заставалася, было немагчыма.


Бюст Станіславу Манюшку.

**— Ці будзе працяг мемарыяльнага комплексу ў Трасцянцы?**

— Так, цяпер ідуць работы па праектаванні наступнай яго часткі. У прыватнасці, распрацоўваецца канкрэтнае напаўненне мемарыяла, бо «Брама памяці» — толькі ўводная частка комплексу. Цяпер мы рухаемся ўглыб тэрыторыі, але вельмі далікатна, каб не парушаць спакой пахаваных там ахвяр. Усе скульптуры будуць зроблены ў стылі мінімалізму з акуратнымі абходнымі дарожкамі, што падвядуць да рэканструяваных асноўных зон, пунктаў, якія былі задзейнічаны на тэрыторыі канцлагера 70 гадоў таму. Для пачатку з'явіцца манументы ям-печаў, дзе спальвалі людзей, а таксама каменныя бардзюры-стэлы, на якіх напішуць імёны загінуўшых.

**— Цікава даведацца пра іншыя аўтарскія скульптурныя праекты: мінулыя, цяперашнія, будучыя...**

— У 2013 годзе мы з калегамі працавалі над афармленнем унутранага строю Палаца Незалежнасці ў Мінску. Рабіў маштабныя, велічнейшыя больш як два метры, дэкаратыўныя вазы для вялікай залы перамоў. На кожнай вазе акрамя стандартных упрыгажэнняў і арнаментаў ёсць барэльеф з выявай нацыянальных помнікаў архітэктуры. Зроблены яны ў тэхніцы асялковага мармуру. У вялікай банкетнай зале ўстаноўлены створаныя мной у суаўтарстве з Сяргеем Логвіным і Уладзімірам Піпіным барэльефы на тэму беларускіх народных свят — ад Каляд да Яблычнага спаса і Дажынак. Асноўная кампазіцыя — гэта тры дзяўчыны, якія танцуюць, пяці метраў у вышыню, што ўвасабляюць Купалле. Быў створаны і бюст Станіславу Манюшку, сусветна вядомаму кампазітару, які знаходзіцца ў Чэрвені.

**— Што наконт скульптуры вашай мары?**

— У мастака не бывае канкрэтных планаў. Ды і баюся казаць, каб не спалохаць поспех. Настроены на ўдзел у конкурсах, прымеркаваных да дзяржаўных свят альбо значных для краіны падзей. Тут важна разлічыць час і да абвяшчэння творчага спаборніцтва быць гатовым. Вядома, планую ствараць і маленькія работы для асабістай творчай «скрыначкі». Для любога мастака важней не вынік. Мне падабаецца сам працэс працы, а тое, што атрымліваецца на выхадзе, — гэта хутчэй для гледача.

**— Скульптурнае аблічча Мінска вельмі багатае. Але, можа быць, чагосьці не хапае? Якія аб'екты прыцягваюць асабіста вас?**

— Улады Мінска спрыяюць культурнаму ўзбагачэнню. Але і сталіцу, і ўсю краіну можна яшчэ насычаць скульптурнай формай. Тут няма межаў. Часта ўсё ўпіраецца ў фінансаванне, таму што скульптура — адзін з самых дарагіх і працаёмкіх відаў творчасці. Тым не менш на сапраўды вартыя ідэі сродкі заўсёды вылучаюцца. Мне напрыклад, падабаюцца помнікі Леніну і Дзяржынскаму ды і наогул скульптуры, якія прайшлі выпрабаванне часам. Але я ж гляджу не як звычайны чалавек, успрымаючы скульптуру толькі эмацыянальна, а як майстар. Аналізую тэхніку яе стварэння.

**— З якімі матэрыяламі працуеце? Якія тэмы любіце?**

— Адно з апошніх маіх твурэнняў — серыя жаночых эцюдаў, даволі маштабных па фармаце. Часцей за ўсё працую з фігуратыўнай пластыкай, а не з абстракцыяй. Выказваю думкі праз рэльефы і выгібы чалавечага цела, бо яно настолькі шматграннае, эмацыянальнае, бязмежнае! А любімыя матэрыялы — гэта бронза, пластык, асялковы мармур ці проста зварка чорнага металу, для больш маленькіх дэкаратыўных форм — дрэва і камень.

**— Што можаце сказаць пра беларускую скульптурную школу?**

— Сёння ёсць тэндэнцыя пераходу ўсіх вузаў на Балонскую сістэму навучання, чатыры гады. З аднаго боку, гэта правільна. Але вось у дачыненні да творчых спецыяльнасцей... Што такое дзве гадзіны ў майстэрні для студэнта-пачаткоўца? Пасля Акадэміі мастацтваў я праходзіў павышэнне кваліфікацыі ў Фларэнцыі. Выкладчыкі там абураліся, што зменшыўся час, адведзены на практыку. У нашай скульптурнай школе, тым не менш, засталіся фундаментальныя каштоўнасці, і наша задача ўсё гэта захаваць.

**— Раскажыце пра найбольш значныя конкурсы і фестывалі, у якіх вы ўдзельнічалі.**

— Памятаю конкурс «Алімпійскае мастацтва і спорт-2000», дзе лепшыя работы адбіраліся ў Швейцарыі — адна-дзве на кожную краіну. Туды патрапіў графічны твор Дар'і Мароз, студэнткі кафедры графікі Акадэміі мастацтваў, які заняў потым адно з першых месцаў, і, зусім выпадкова, мая бронзавая скульптура «Хуткасць», што паказвае веласіпедыста ў руху. Я атрымаў пятае месца — для студэнта гэта было «вау!». Можна згадаць і ўдзел у міжнародным біенале маладых архітэктараў «Леанарда-2005». Цікавы праект для набярэжнай Нямігі рабілі мы з іншымі скульптарамі — «Адзінаццаць стагоддзяў». Кожная скульптура сімвалізавала пэўную эпоху: ад першага згадвання Мінска ў летапісах. У мяне быў 1385 год, Крэўская унія. Пяць гадоў таму я таксама прадстаўляў краіну скульптурай «Укрыжаванне» на Венецыянскім біенале. Наогул, галоўнае не перамога, а ўдзел. Любое спаборніцтва для творчага чалавека — гэта рэальная ацэнка нараўне з іншымі, стымул да ўдасканалення.

**— Хтосьці з мастакоў сказаў, што скульптура — гэта сфера пачуццяў, звязаная з формай. А для вас?**

— Скульптура для мяне, з аднаго боку, — гэта спорт, цяжкая мужчынская праца, а з другога — выяўленне эмоцый праз форму. Мой педагог Леў Гумілеўскі аднойчы сказаў, што «рух цела ёсць рух душы». Майстар, робячы скульптуру, павінен думаць пра кожны выгіб, самую дробную дэталь, бо ўсё складае адно цэлае і нічога не выпадкова. З іншага боку, мастацтва — гэта сфера бязмежнага эксперымента. Хтосьці рызыкуе, робячы авангардныя працы, якія могуць застацца незразумелымі, а хтосьці аддае перавагу традыцыйным формам, але ў любым выпадку кожны выпускнік кафедры скульптуры Акадэміі мастацтваў умее працаваць у першую чаргу над фігуратыўнай пластыкай. Гэта класіка. У будучыні, калі канчаткова падвяду вынік нейкага этапу сваёй творчасці, планую персанальную выстаўку. На ёй усё і ўбачыце. Дакладней, адчуеце!

**Марыя ВОЙЦІК**

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Лёс, які не паўтарыць

Юбілей акадэміка стаў выдатнай нагодай для прадстаўлення новага выдання, падрыхтаванага ў ЦНБ імя Якуба Коласа. Гэта каталог «Бібліятэка акадэміка Пятра Фёдаравіча Глебкі (1905 — 1969)», які сёлета пабачыў свет у Выдавецкім доме «Беларуская навука». Загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Якуба Коласа Аляксандр Сцефановіч, прэзентуючы кнігу, распавёў:

— Дзесяць гадоў таму, падчас святкавання стагоддзя з дня нараджэння Пятра Глебкі, мы планавалі, што кнігі з адзінага мемарыяльнага кабінета, які дзейнічае ў нашай бібліятэцы, будуць адзначаныя ў адмысловым выданні. Яго меркавалася падрыхтаваць да чарговага юбілею паэта, даследчыка, акадэміка. І вось надышла знакавая дата, калі мы можам пазнаёміць грамадскасць з вынікамі доўгай і карпатлівай працы. Каталог, які мы зараз прэзентуем, традыцыйны па характары, выдадзены на паперы. Сёння выдаўцы і бібліёграфы ўсё часцей аддаюць перавагу прадстаўленню каталогаў у электронным выглядзе на інтэрнэт-платформах. Мы ж, выбраўшы класічны фармат, аддаём даніну павагі традыцыям, што ўжо склаліся ў айчынным кнігазнаўстве, фарміраваліся самім Пятром Глебкам.

Новы каталог змяшчае навуковае апісанне ўсіх кніг, якія маюцца ў зборы Пятра Глебкі. Адметна, што бібліяграфічныя звесткі дапаўняюцца іншымі сур'ёзнымі публікацыямі. Гэта прадмова, артыкул, прысвечаны жыццю і творчасці выдатнага навукоўца і паэта, а таксама грунтоўная частка, дзе даследуюцца экслібрысы Пятра Фёдаравіча. Больш за тое, у каталогу шмат ілюстрацый — магчымасць яшчэ лепш пазнаёміцца з кнігазборам Пятра Глебкі.

*„Для нас постаць Пятра Глебкі ўнікальная дзякуючы яго бібліяфільскаму захапленню. І справа не толькі ў тым, што ім была сабраная багатая бібліятэка і перададзеная ў зборы ЦНБ імя Якуба Коласа. Гэта акенца ў свет кнігі, якія мы яшчэ захапілі, але якія сёння ўжо разбураецца. Вельмі часта людзі вызваляюцца ад кніг. Разбураецца бібліяфільская культура.*

Аднак з выданнем каталога праца па вывучэнні кнігазбору і архіва Пятра Глебкі не скончаная. Аляксандр Віктаравіч падкрэсліў:

— Тут апісаныя толькі кнігі, але ў нашым зборы захоўваецца яшчэ багатая калекцыя перыядычных выданняў, багаты рукапісны матэрыял з архіва П. Глебкі. Мяркуецца, што другое выданне каталога, у якое ўвойдуць і новыя звесткі, можа пабачыць свет праз некаторы час.

Наведвальнікі вечарыны ў межах адмысловай экспазіцыі мелі магчымасць на свае вочы пабачыць выданні з бібліятэкі Пятра Глебкі, некаторыя рукапісныя дакументы з яго архіва. На імпрэзе прысутнічаў і мастак Мікола Купава — аўтар экслібрыса акадэміка. Спадар Мікола распавёў пра сімволіку вобразаў, якія сталі элементамі кніжнага знака творцы:

— Калі я працаваў над гэтым экслібрысам, то ведаў, што Пятро Глебка быў вельмі адукаваным, талерантным чалавекам з шырокімі навуковымі і творчымі інтарэсамі. Таму і выяву праспрабаваў зрабіць, адпаведную яго асобе. Так, у цэнтры экслібрыса — беларуская зямля і магутны дуб над ёй, што сімвалізуюць карані таленту творцы, яго імкненне да магутнасці. Прысутнічаюць тут і герб Францыска Скарыны, раскрытая кніга, і яшчэ адзін беларускі сімвал — бусел.



*Аляксандр Сцефановіч прадстаўляе каталог «Бібліятэка акадэміка П. Ф. Глебкі (1905 — 1969)».*

Калі экслібрыс распрацоўваўся, у 1983 г., Мікола Купава не ведаў, што ўдзельнічае ў конкурсе і што яго эскіз пераможа. Але сёння гэтай выявай пазначаныя ўсе кнігі са збору Пятра Глебкі.

Сёлета быў выдадзены каталог кніг са збору Пятра Глебкі, супрацоўнікі ЦНБ імя Якуба Коласа падрыхтавалі юбілейную выстаўку «І краскі, і словы завіў у вянок…» і цікавы, інфарматыўны фільм пра паэта, акадэміка «Гаючыя ўласцівасці кнігі», але, думаецца, яшчэ будуць адкрывацца новыя факты з жыцця і творчасці Пятра Фёдаравіча. І новае знаёмства-адкрыццё адбылося не так даўно. Аляксандр Сцефановіч адзначыў:

— Прыкладна месяц таму да нас звярнуўся чалавек па імені Георгій Фінкель, ён быў праездам у Беларусі і вырашыў зайсці ў нашу бібліятэку. Георгій Фёдаравіч распавёў, што яго бацька быў добрым сябрам Глебкі. Нечаканы госць падарыў нашай бібліятэцы дзве ўнікальныя кнігі: выдадзены ў 1940 годзе ў Беластоку зборнік твораў яўрэйскіх пісьменнікаў, у якім прадстаўленыя тэксты на яўрэйскай, беларускай (напісаныя кірыліцай і лацінкай), рускай, польскай мовах, а таксама кнігу «Под небом Родины» — зборнік паэзіі самога Глебкі, датаваны 1951 годам (пераклад выдання «Пад небам Бацькаўшчыны», 1947), з дароўным надпісам аўтара. Георгій Фёдарафіч адчуў: жыццёвы шлях падышоў да завяршэння, таму, ведаючы, што для бацькі Пётр Глебка меў вельмі важнае значэнне, вырашыў перадаць такія каштоўныя выданні ва ўстанову, якая апякуецца захаваннем архіва выдатнага паэта і навукоўца.

## ГЕРОЙ «АДРАДЖЭНСКАГА ЧАСУ»

Пра Пятра Глебку на юбілейнай вечарыне ўспаміналі многія. Удава пісьменніка Івана Чыгрынава Людміла Прахараўна распавяла пра сваё знаёмства з выдатным навукоўцам, прафесар Эмануіл Іофе прыгадаў доўгія гутаркі з Глебкам. А кандыдат філалагічных навук, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Сяргей Гаранін зазначыў:

— Звычайна выступленні на імпрэзах тэмы не маюць. Але сваю сённяшнюю прамову я назваў бы так: «Лёс, які немагчыма паўтарыць». Глебка пражыў менавіта такі лёс. Факты яго біяграфіі паасобку не ўнікальныя: досыць позна пачаў вучыцца, паступіў ва ўніверсітэт, уваходзіў у літаратуру як паэт, пісьменнік, быў сябрам літаратурных суполак «Маладняк» і «Узвышша», журналісцкая, выдавецкая праца. Пасля — навуковая работа, ён быў загадчыкам аддзела лексікалогіі ў тагачасным акадэмічным Інстытуце мовазнаўства. Пазней — стваральнік і дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору… Глебка раскрываецца і як бібліяфіл.

Справа ў тым, што яго лёс склаўся на хвалі нацыянальнага адраджэння, якая пачалася яшчэ да рэвалюцыі. І ў далейшым рэвалюцыйныя падзеі бачыліся іх сучаснікамі як сапраўднае адНаўленне. Страчваліся і гінулі таварышы, было складанае становішча ў краіне, але ўсё гэта рабілася дзеля будучыні, у якую «ўзвышаўцы», «маладнякоўцы» верылі. Гэты «адраджэнскі час» выбіраў у грамадстве людзей, якія былі схільныя да самай рознабаковай дзейнасці. Бо сумясціць здольнасці і навукоўцамастацтвазнаўцы, і філолага, і мастака слова ўдавалася толькі адзінкам.

*„Новы каталог змяшчае навуковае апісанне ўсіх кніг, якія маюцца ў зборы Пятра Глебкі. Адметна, што бібліяграфічныя звесткі дапаўняюцца іншымі сур'ёзнымі публікацыямі. Гэта прадмова, артыкул, прысвечаны жыццю і творчасці выдатнага навукоўца і паэта, а таксама грунтоўная частка, дзе даследуюцца экслібрысы Пятра Фёдаравіча.*

Па меркаванні Сяргея Лявонцьевіча, для нас постаць Пятра Глебкі ўнікальная дзякуючы яго бібліяфільскаму захапленню. І справа не толькі ў тым, што ім была сабраная багатая бібліятэка і перададзеная ў зборы ЦНБ імя Якуба Коласа. Гэта акенца ў свет кнігі, якія мы яшчэ захапілі, але якія сёння ўжо разбураецца. Вельмі часта людзі вызваляюцца ад кніг. Разбураецца бібліяфільская культура.

Адметна, што дзякуючы Пятру Глебку захаваліся многія выданні твораў рэпрэсіраваных аўтараў — менавіта ў яго кнігазборы яны дачакаліся часу, калі знаёмства з імі стане дазволеным. А ў пасляваенныя дзесяцігоддзі да Глебкі часта звярталіся па дапамогу з Нацыянальнай бібліятэкі БССР, чые кнігазборы былі пашкоджаныя. Кніжная ж калекцыя Глебкі цудам ацалела, і яе гаспадар з задавальненнем пазычаў выданні, якіх бракавала ў публічным доступе. Ёсць у зборы Глебкі і вельмі каштоўныя асобнікі. Гэта, да прыкладу, зборнік паэзіі «Дудар беларускі», выдадзены пры жыцці аўтара, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Асобнік быў ва ўласнасці Вацлава Ластоўскага, захоўваўся ў Беларускім музеі Івана Луцкевіча ў Вільні, а пазней трапіў да Глебкі.

Пётр Глебка памёр у 1969 годзе, амаль 46 гадоў таму. Але і сёння блізкія вельмі сумуюць па ім, са слязьмі на вачах успамінаюць бацьку, настаўніка, калегу. На вечарыне ў ЦНБ імя Якуба Коласа прысутнічала дачка Пятра Фёдаравіча. Ларыса Пятроўна падкрэсліла:



*Падчас юбілейнай імпрэзы выступае Ларыса Пятроўна Глебка, дачка паэта.*

— Бацька, Пётр Фёдаравіч, пражыў усяго 64 гады. Сёння мне вельмі не хапае яго памяркоўнасці і сардэчнай цеплыні. Для мяне самым дарагім падарункам заўсёды былі кнігі таты з яго аўтографамі. Першую кнігу ён падарыў у 1947 годзе, пасля вайны. Гэта быў зборнік «Пад небам Бацькаўшчыны». Там яго рукой напісаныя такія словы:

*Пад небам Бацькаўшчыны мілай*
*Прыйшла да нас ты на зямлю.*
*Хачу, каб ты яе любіла,*
*Як шчыра я й цябе люблю.*
*Хачу, каб дні вясны і зімы,*
*І леты ўсе твае пайшлі*
*Пад небам нашае Радзімы*
*І на яе святой зямлі.*

Думаецца, словы на гэтым аўтографе могуць быць скіраваныя не толькі дачцэ паэта, але і кожнаму шчыраму сябру беларушчыны, які жыве і працуе на беларускай зямлі.

Ларыса Пятроўна таксама падзялілася сваёй трывогай і шкадаваннем. Справа ў тым, што Пётр Глебка шмат гадоў аддаў працы ў Акадэміі навук, ён фактычна быў стваральнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Між тым яго імя можна пабачыць хіба толькі на шыльдзе на дзвярах мемарыяльнага кабінета ў ЦНБ імя Якуба Коласа. Магчыма, на сцяне Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы калі-небудзь з'явіцца мемарыяльная дошка Пятра Глебкі… Ці ў вестыбюлі — бюст? А можа, у акадэміі будзе заснаваная прэмія маладым навукоўцам з надзвычай шырокімі інтарэсамі і здольнасцямі, якія актыўна працуюць на ніве некалькіх дысцыплін, і атрымае яна імя Пятра Глебкі.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

# Зямное і ўзвышанае

**Мяне заўсёды здзіўляла літаратурная актыўнасць аўтараў сталага веку. Тры свежыя кнігі заслужанага дзеяча культуры Беларусі Анатоля Дзялендзіка чарговы раз «падагрэлі» гэтае адчуванне: «Дзяўчаты-прыгажуні» («Мастацкая літаратура», 2013), «Хто сагрэе Галатэю?» (Выдавецкі дом «Звязда», 2015), «Гульні на краі прорвы» («Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд», 2015). У далейшым здзіўленне толькі ўзрастала: перадусім ад тэматычнага спектра і жанравай шырыні гэтых выданняў.**

Усе творы з азначаных кніг можна ўмоўна класіфікаваць па храналогіі апісаных падзей: аўтарам у роўнай ступені ўдзяляецца ўвага і мінулым часам — ад Сярэднявечча да адносна «свежай» гісторыі (успомнім хаця б сцэнарый фільма «Анастасія Слуцкая» ці творы пра партызан) і сучаснасці ва ўсёй яе складанай шматаблічнасці (аповесці «Хто сагрэе Галатэю?», «Месца пад сонцам»). А ў некаторых творах і прагноз адносна будучыні чалавецтва пры тых ці іншых раскладках (напрыклад, іранічная аповесць «Скакаў казак за акіян»).

Аўтарская фантазія вольна «гуляе» не толькі ў часе, але і ў прасторы. Вельмі шырокай паўстае геаграфія дзеянняў у творах. Гэта нядзіўна: аўтар, па яго прызнанні, любіць падарожнічаць, траціць на гэтае хобі ўсе свае ганарары. Розныя куткі Беларусі (ад Прыпяці да Бярэзіны), Расія, Украіна, далёкае замежжа — напрыклад, Аўстралія, ЗША...




Уражвае дыяпазон прафесій, прадстаўленых А. Дзялендзікам у новых творах. Асноўнае месца займаюць тыя, да якіх мае дачыненне сам пісьменнік, — доктар (апавяданне «Гульні на краі прорвы», радыёп'еса «Дыягназ», аповесць «Эскулап і Фея»), журналіст (апавяданне «Юлій Цэзарэвіч дае кансультацыю»), літаратар (аповесць для тэлевізійнага экрана «Карона кахання»). Але аўтар раскрывае сваё веданне справы і ў сферы лёгкай прамысловасці (аповесць «Хто сагрэе Галатэю?»), і ў тэхнічнай навуцы (амаль неверагодная гісторыя «Псіх»), і нават у бандыцкім асяроддзі (іранічнае апавяданне «Начныя прыгоды Элізы»).

Тэмы для мастацкага асэнсавання, як прызнаецца сам А. Дзялендзік у «Іранічнай споведзі», пастаянна падкідвае жыццё, таму вымысел у яго творах прысутнічае ў мінімальнай ступені. Разам з тым, пішучы пра кнігу «Гульні на краі прорвы», пісьменнік не хавае, што яна складаецца з самых розных матэрыялаў — настолькі, што часам здаецца, быццам створана не адным аўтарам, — і пры гэтым дадае: «У Пікаса таксама былі розныя перыяды — ружовы, блакітны». Сапраўды, тэматычная шырыня новых кніг здзіўляе: тут ахоплены ці не ўвесь жыццёвы спектр — ад кахання да палітыкі. Але нават і гэтыя тэмы маюць неаднароднасць.

Так, у аповесці «Грэшніца» пераплятаецца жывёльнае з узвышаным. І гэта не аўтарская прыхамаць, а жыццёвая рэчаіснасць, бо такая гісторыя здарылася насамрэч на Заходняй Беларусі ў сярэдзіне 1950-х гадоў, калі А. Дзялендзік толькі пачынаў медыцынскую кар'еру. А фабула наступная. Маладому міліцыянеру Антэку даручана даставіць у турму адну распусную дзяўчыну, якая імкнецца заразіць венерычнай хваробай як мага больш мужчын. Ева (такое вось даволі сімвалічнае імя) вельмі прыгожая. Па дарозе яна ўмудраецца пашырыць кола хворых, у кожнага з якіх атрымліваецца свая гісторыя, зразумела, без хэпі-энду. Абыдземся без каларытных цытат. У той жа час выяўляецца, чаму дзяўчына стала на такі заганны шлях: адбылася глыбокая драма, у якой гераіня аніяк не вінаватая. Але, кіруемая прагай помсты (а давёў яе да такога радыкальнага стану адзін высокі чыноўнік), Ева шукае сатысфакцыі на кожным кроку, можна сказаць, самаахвярна. У сувязі з гэтым адносіны міліцыянера і грэшніцы кардынальна трансфармуюцца: паміж імі нараджаецца высокае пачуццё.

Як у гэтым, так і ў іншых творах А. Дзялендзік не камплексуе і ўводзіць сцэны, якія некаму могуць падацца занадта вульгарнымі, натуралістычнымі. Права мастака! І на такі падыход знойдзецца свой чытач. Хаця, канечне, падобныя творы знешне патыхаюць таннай бульварызацыяй. Таму ўспрыманне трэба будзе рэгуляваць чытачу.

Пяру А. Дзялендзіка пакараюцца таксама і самыя розныя фарматы: ад гумарыстычных камедый і баек, іранічных аповесцей і памфлетаў да філасофскіх апавяданняў. Зрэшты, творы цяжка паддаюцца дыферэнцыяцыі. Гумар, як правіла, насычаны сур'ёзнымі лейтматывамі. Складаныя тэмы не абыходзяцца без усмешлівых іскрынак. Належнае месца займае самаіронія — рыса, якая паддаецца не кожнаму пісьменніку, але з'яўляецца даволі вызначальнай у здольнасцях творцы. Прычым яна шырока прысутнічае не толькі ў мастацкіх творах А. Дзялендзіка.

Пры завяршэнні гэтага водгуку трапіла ў рукі яшчэ больш свежая кніга пісьменніка — «Іранічныя мемуары» («Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд», 2015). Сама назва — гаварка і тлумачэнняў не патрабуе. А вось успаміны зацікаваць шырокае кола чытачоў. І гэта не штамп, а аб'ектыўная рэчаіснасць — такая ж, якая паўстае на старонках кнігі, — аднак не толькі падсвечаная ironіямі А. Дзялендзіка, але і багатая на фактаграфію яго ўчэпістага вока і дасціпнага, цвярозага, аналітычнага розуму. Упэўнены, мемуары стануць не проста чытвом пра савецкі час, але і крыніцай гістарычных ведаў пра яго перавагі і недахопы.

Свежыя кнігі А. Дзялендзіка паказваюць, што аўтар захоўвае маладую душу, «маладыя жаданні». Дык зычым яму захаваць як мага даўжэй гэтыя рысы, а таксама — новых твораў і выданняў.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

*На паліцы*

# Ліра Дагестана

**«Хто мяне ў тумане аклікае, (Сумам ахінаючы здаля?) Хто мне тыя песні напявае? (То Радзіма жаліцца мая)», — апошняя страфа з верша «Голас песні», якім адкрываецца беларуская кніга паэзіі аварскага паэта Дагестана Магамеда Ахмедава «Горная ліра», якая пабачыла свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці». Перакладчык на беларускую — Міхась Пазнякоў.**

Перш чым павесці размову пра саму кнігу, крыху — пра ўвагу беларускіх перакладчыкаў да паэзіі народаў постсавецкай прасторы. Нельга не зазначыць, што акрамя традыцыйнай зацікаўленасці паэзіяй суседзяў — творцаў з Украіны, Польшчы, Латвіі, Літвы — выразна акрэсліліся і некаторыя іншыя кірункі. Пасля перапынку актыўна перакладаюцца вершы народаў Расіі: паэтычныя адкрыцці ўдмурцкіх, калмыцкіх, аварскіх, татарскіх, чачэнскіх майстроў слова з'явіліся ў «Полымі», «Літаратуры і мастацтве», іншых выданнях. Шмат у гэтым плане зроблена лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міколам Мятліцкім. Як адзін з важных абсягаў — і перастварэнне казахскай, як сучаснай, так і класічнай, паэзіі на беларускую мову. І яшчэ — азербайджанская паэтычная творчасць… Над яе перакладамі ў апошні час працавалі Віктар Гардзей, Мікола Мятліцкі, Таццяна Сівец, Рагнед Малахоўскі ды іншыя таленавітыя беларускія аўтары.

Кніга Магамеда Ахмедава ў гэтай прасторы мастацкіх перакладаў бачыцца кнігай-з'явай, кнігай-падзеяй. Па-першае, усе пераклады ажыццявіў адзін паэт. А гэта — 119 асобных вершаў і яшчэ два паэтычныя цыклы: «Пісьмёны» (складаецца з двухрадкоўяў) і «Шалі» (чатырохрадкоўі). Па-другое, удалым падаецца выбар самога паэта. У М. Ахмедава досыць высокі мастацкі аўтарытэт, ён — годны вучань Расула Гамзатава. Так, у розныя гады вершы М. Ахмедава на рускую мову перакладалі Юрый Кузняцоў, Станіслаў Куняеў, Сяргей Васільеў; высока ацэньвалі яго паэтычную ліру Расул Гамзатаў, Леў Озераў, Аляксандр Міхайлаў, Вадзім Дзяменцьеў і іншыя. Па-трэцяе, беларуская кніга аварскага мастака слова досыць цэласная. Відавочна, збіралася, складалася супольна аўтарам і перакладчыкам.

Галоўным лейтматывам «Горнай ліры» бачацца перажыванні лірычнага героя за парушэнне гармоніі існавання. Паэт — барацьбіт за ідэалы, за сцвярджэнне прыярытэтаў духоўнага, маральнага. Даволі часта паэтычныя шуканні аварскага творцы раскрываюць усю трагедыйнасць, драматычнасць чалавечага існавання. Трагедыі і драмы загартоўваюць чалавека, развіваюць трываласць асобы. І паэзія тады чагосьці вартая, калі ідзе поруч з чалавекам, з усімі складанасцямі яго жыцця. Філасофія паэта-горца, паэта, які судакрануўся найперш са школай аварца Расула Гамзатава, балкарца Кайсына Куліева, лезгінскага ашуга Сулеймана Стальскага, іншых легендарных папярэднікаў, становіцца блізкай і зразумелай. Як блізкі і зразумелы яго боль:

*Валадару нябёс заўсім*  
*не трэба,*  
*Каб свет наш*  
*перапоўнены быў злом.*  
*Выходзіць, што*  
*падтрымлівае неба*  
*Адзін паэт прасветлены*  
*радком.*  
(«Украдзеныя нябёсы»)

Адчуванне вечнасці, Радзімы праз памяць пра гістарычныя традыцыі роднай старонкі (вершы «Кліч Ахульго», «Бурка Шаміля», «Кніга Махмуда») накладваецца і на яркія паэтычныя адбіткі-любаванні прыродай Дагестана. У творах такога кшталту не менш грамадзянскасці, чым у творах, што носяць тэматычна больш выразны сацыяльны і грамадска-палітычны характар.




*Магамед Ахмедаў. Горная ліра: вершы; пер. з аварскай М. Пазнякова. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2015. — 174 с.*

«Горная ліра» Магамеда Ахмедава, зборнік вершаў, у суаўтары якога можна смела залічваць беларускага перакладчыка Міхася Пазнякова, — і падказка на працяг творчай работы на ніве беларуска-дагестанскага літаратурнага пабрацімства. Некалі яго сур'ёзным гарантам быў добры сябар беларускіх паэтаў Расул Гамзатаў. Шмат хто ў Беларусі лічыў за гонар перакладаць яго вершы. Літаратуры народаў Дагестана (а іх болей як дзесяць) актыўна развіваюцца і сёння. Пра гэта, між іншым, сведчаць і некалькі інтэрв'ю, якія даў беларускім масмедыя параўнальна нядаўна кіраўнік Дома перакладу з Махачкалы, пісьменнік Марат Гаджыеў. З творчай паездкай у Дагестане пабываў беларускі паэт і перакладчык Рагнед Малахоўскі. Цікавы і такі факт: у выданні кнігі аднаго верша «Францыск Скарына на мовах народу свету» прадстаўлены пераклады ці не на ўсе літаратурныя мовы Дагестана — аварскую, даргінскую, лезгінскую, нагайскую ды іншыя. І вось цяпер вядомы сучасны аварскі паэт Магамед Ахмедаў прыходзіць да беларускага чытача асобнай грунтоўнай кнігай.

Што наперадзе? Які супольны творчы праект рэалізуюць пісьменнікі Дагестана і Беларусі? Мо з'явіцца ў адным з мінскіх выдавецтваў (чаму б ізноў не ў выдавецтве «Чатыры чвэрці»?) анталогія перакладаў на беларускую мову «Паэзія Дагестана» ці «Сучасная паэзія Дагестана»? Не будзем загадваць наперад, але будзем у спадзяваннях на добрае працаванне. Памкненні да адкрыцця чужога з дапамогай такога шчырага інструмента, як родная мова, — гэта яшчэ і дарога да ўзбагачэння ўласнага.

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

# Прайсці праз палон

**Прэзентацыя кнігі Анатоля Шаркова і Алены Мох-Дакуновай «Цяжкое бярэмя палону: ваеннапалонныя і інтэрніраваныя Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі 1939 — 1951», што пабачыла свет сёлета ў Выдавецкім доме «Звязда», прайшла ў Гістарычнай майстэрні імя Леаніда Левіна Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханэса Рау.**




Першае даследаванне на тэму палону ў гады Другой сусветнай вайны выйшла ў 1993 годзе. Гэта кніга «Лагеры для савецкіх ваеннапалонных на тэрыторыі Беларусі». У тым жа годзе з'явілася даведачнае выданне «Месцы прымусовага ўтрымання на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны», дзе аўтары ў асноўным прытрымліваліся звестак дакументальнага характару. Адзін з аўтараў новага даследавання доктар гістарычных навук, кандыдат юрыдычных навук, прафесар Анатоль Шаркоў падчас прэзентацыі новага выдання зазначыў:

— Шмат у нас кніг пра герояў вайны, іх гераічныя ўчынкі. Але найбольш драматычным у гады вайны быў лёс ваеннапалонных. Пасля знаёмства з дакументамі, якія доўгі час не публікаваліся, я заўважыў, што звесткі пра такіх асоб заставаліся «за кадрам». Таму перадусім хацелася пагаварыць пра людзей, якія сталі ахвярамі ваеннага часу. У мяне даўно была ідэя ў асобным выданні сабраць звесткі пра ўсіх ваеннапалонных, паказаць умовы іх утрымання, распавесці, што з імі адбывалася ў лагерах і пасля зняволення.

> *Невыпадкова ў цэнтры ўвагі кнігі — лёсы людзей, якія перажылі цяжкое бярэмя палону. Не так важна: былі яны савецкімі грамадзянамі, польскімі ці нямецкімі. Мы пастараліся паказаць іх лёс у гады вайны і пасля яе. Асновай для даследавання сталі не толькі архіўныя дакументы, у тым ліку і раней не вывучаныя, але і ўспаміны былых вязняў, замалёўкі-схемы лагераў, лісты, дзённікі, што збіраліся з розных крыніц фактычна па ўсёй Беларусі.*

Так, маючы доступ да архіваў і дакументаў, Анатоль Васільевіч паступова збіраў звесткі пра польскіх, нямецкіх ваеннапалонных, а праз некаторы час маладая даследчыца Алена Мох-Дакунова пад кіраўніцтвам прафесара Уладзіміра Коршука абараніла дысертацыю, прысвечаную тэме савецкіх ваеннапалонных у гады Другой сусветнай вайны. Так узнікла сумесная ідэя напісаць кнігу, дзе былі б прадстаўлены ўсе катэгорыі палонных. Аўтарам хацелася правесці і параўнальны аналіз умоў утрымання палонных на тэрыторыі Беларусі і Германіі.

— У выніку атрымалася не навуковая манаграфія ў чыстым выглядзе, але кніга навукова-папулярная, чытаць якую будзе цікава ўсім: і тым, хто ведае гісторыю як навуковец, і тым, хто цікавіцца мінуўшчынай на ўзроўні казак. Кніга чытаецца лёгка, яна цікавая. Адметна, што раней я ўжо праводзіў даследаванні, выдаваў па іх выніках кнігі, прысвечаныя тэме ваеннапалонных, але ў працы «Цяжкое бярэмя палону» прыкладна 85 працэнтаў новых звестак. Спадзяюся, што з кнігай пазнаёміцца і нямецкамоўны чытач, бо шэраг глаў прысвечаны ўтрыманню нямецкіх ваеннапалонных, — адзначыў Анатоль Шаркоў.

Даследаванне напісана на аснове архіўных дакументаў, многія раней былі засакрэчаныя. Змешчана шмат фотаздымкаў, якія былі прадстаўлены Беларускім дзяржаўным архівам кінафотафонадакументаў. Прэзентуючы новае выданне, кандыдат гістарычных навук Алена Мох-Дакунова распавяла:

— Яшчэ падчас навучання ва ўніверсітэце я зацікавілася тэмай Вялікай Айчыннай вайны. Мой дзядуля ваяваў, бабуля была на прымусовай працы ў Германіі. Таму я ўвесь час удзельнічала ў разнастайных праектах, прысвечаных Вялікай Айчыннай. Спачатку вельмі цяжка было зразумець тэму ваеннага палону, шмат складаных і заблытаных момантаў. Усё стала больш зразумела пасля таго, як мы сустрэліся і пагутарылі з жывымі ўдзельнікамі падзей, у тым ліку былым вязнем лагераў Барысам Паповым. Менавіта ён змог перадаць звесткі і пачуцці. Таму невыпадкова ў цэнтры ўвагі кнігі — лёсы людзей, якія перажылі цяжкое бярэмя палону. Не так важна: былі яны савецкімі грамадзянамі, польскімі ці нямецкімі. Мы пастараліся паказаць іх лёс у гады вайны і пасля яе. Асновай для даследавання сталі не толькі архіўныя дакументы, у тым ліку і раней не вывучаныя, але і ўспаміны былых вязняў, замалёўкі-схемы лагераў, лісты, дзённікі, што збіраліся з розных крыніц фактычна па ўсёй Беларусі.

Аўтары звярнулі ўвагу на тое, што сёння ў заканадаўстве адсутнічае адмысловы дакумент, які рэгламентаваў бы статус былых ваеннапалонных, і выказалі спадзяванне, што новае выданне падштурхне да яго прыняцця. Уладзімір Адамушка, дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, характарызуючы выданне «Цяжкое бярэмя палону», заўважыў:

— Кніга ў аўтараў атрымалася. І ёсць таму некалькі прычын. Калі раней тэма палону

> *Атрымалася не навуковая манаграфія ў чыстым выглядзе, але кніга навукова-папулярная, чытаць якую будзе цікава ўсім — і тым, хто ведае гісторыю як навуковец, і тым, хто цікавіцца мінуўшчынай на ўзроўні казак. Кніга чытаецца лёгка, яна цікавая. Аўтар ужо праводзіў даследаванні па тэме ваеннапалонных, але ў працы «Цяжкое бярэмя палону» прыкладна 85 працэнтаў новых звестак.*

разглядалася фрагментарна, больш увагі даследчыкі звярталі на ўмовы ўтрымання савецкіх ваеннапалонных на тэрыторыі Беларусі, то ў новым даследаванні тэматыка вельмі пашыраная. Тут знайшлі ўвасабленне і звесткі пра ваеннапалонных 1939 — 1951 гадоў, паход Чырвонай Арміі на Захад, лагеры, што былі створаныя нямецкімі акупацыйнымі ўладамі на тэрыторыі Беларусі, і лагеры, дзе знаходзіліся нямецкія ваеннапалонныя. Можна парознаму ставіцца да таго, што напісана ў гэтай кнізе, але яе аўтары змаглі зрабіць асноўныя канцэптуальныя высновы па праблеме. Тэма распрацавана вельмі дакладна, але яна можа быць адкрытай доўгія гады. Мы ўвесь час знаходзім новыя матэрыялы і звесткі пра ваеннапалонных, удакладняюцца месцы і ўмовы іх утрымання.

Можна быць упэўненым: даследчыкі зробяць новыя адкрыцці ў галіне вывучэння палону ў гады Другой сусветнай вайны. А чытачоў чакаюць новыя кнігі!

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Магія па-за часам

**Уявіце: за акном залатая восень, а ў вас ужо падарунак ад Дзеда Мароза ў кішэні, напрыклад, смачныя шакаладныя цукеркі ў яркіх абгортках альбо скрыначка пірожных.**




А калі яшчэ і пад цёплы плед залезці... Захутайцеся пацяплей ды слухайце чароўную гісторыю! Тамара Краснова-Гусачэнка падрыхтавала новую кнігу — «Навагоднія прыгоды Марусі», якая выйшла сёлета ў Выдавецкім доме «Звязда».

Бабуля і дзядуля Марусі жывуць каля сапраўдных гор, акружаных густым лесам. З першых старонак загадкавае і невытлумачальнае інтрыгуе.

Можна і ў акно паляцець — прама ў зімовую ноч, закруціцца ў снежным віхоры і прызямліцца на чароўную паляну, абсыпаную рамонкамі зімой. Усё ў свеце неадназначна і загадкава! А калі раптам сутыкаюцца некалькі сусветаў? Магія? Так, па ўсім відаць, здарылася і ў кнізе.

Маруся, дарэчы, дзяўчынка адважная: зусім не спалохалася свайго таямнічага перамяшчэння. Сустрэла ў незвычайным месцы страчанага год таму любімага ката Барсіка. А той яшчэ і чалавечым голасам размаўляе. Ды апрануты як франт: у фрак з белай бабачкай! Ледзь не «Майстар і Маргарыта»: палёты наяве і разумныя каты. Але гэта, вядома, дзіцячае выданне.

Далей яшчэ цікавей: каралеўства, дзе ўвесь час спяваюць істоты (ці людзі?), юнакі, што нагадваюць кветкі бэзу і п'юць бэзавае малако, таямнічы, але злёгку сумнаваты на выгляд палац у атачэнні блакітных елак, кусты кветак, што танцуюць, спявак, які можа ператварацца ў дракона і пускаць яд разам з парамі агню…

Больш знаёма выглядае, напрыклад, каралева, што п'е гарбату за сервіраваным сталом. І гэта нагадвае ўжо гісторыю пра Алісу, якая таксама патрапіла ў цудоўнае вымярэнне. Гэты матыў вельмі палюбіўся дзецям: кожная казка, звязаная з уцёкамі з рэальнай штодзённасці, выклікае захапленне!

Шмат нечаканасцей сустракае на сваім шляху смелая і не па гадах разважлівая Маруся. Назірае, як складаюцца песні душы і растуць аблокі. Даведваецца пра тое, як выратаваць палонных свайго страху і лянoты. А яшчэ — чаму ўсе, хто ў загадкавым каралеўстве сыпле кампліментамі, выказваюць пры гэтым зусім не смешныя жарты кшталту зняцця галавы з плеч…

Канечне, дзяўчынка вучыцца разам з чытачамі адрозніваць сілы святла ад сіл цемры, сапраўднае ад хлусні. Знешнасць падманлівая — і гэта першая, а можа, і самая галоўная мудрасць кнігі. Яшчэ — не трэба баяцца перамен, нават калі вам вельмі страшна, што наперадзе.

У казцы ёсць і іншыя павучальныя моманты: трэба прыслухоўвацца да чужога сэрца, быць ветлівым, не лісліві́ць і не падманваць. І верыць у цуды.

**Марыя ВОЙЦІК**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 3.

# Артэрыі жыцця — дарога ў свет


Лю Мяа і Чжан Хуэйцінь (справа).

## ГАЛОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ — ДЗІЦЯ, ПАДЛЕТАК

Да такой высновы падвёў мяне дырэктар кніжнага выдавецтва «Змена», якое, хаця і зарэгістравана ў бліжняй да сталіцы правінцыі, працуе ў Пекіне. Спадар Бэй Бін — не толькі дырэктар, не толькі кнігавыдавец з вялікім вопытам, але і вядомы ў краіне дзіцячы пісьменнік. Перакладчыкам у размове з ім выступіў дырэктар Усекітайскага агенцтва па ахове аўтарскіх правоў Чжан Гунба. Ён папрасіў называць сябе Алегам і падкрэсліў пры гэтым: «На рускі ці беларускі манер… Так вам лягчэй будзе выгаворваць…» Увогуле, называць сябе рускімі імёнамі ў кантактах з прадстаўнікамі постсавецкай прасторы для кітайцаў — добрая традыцыя.


Магістрантка Марыя — так яе завуць на беларускі лад.

Выдавецтва «Змена» выдае «на-гара» 400 назваў кніг у год. «Арыгінальных кніг», — падкрэслівае спадар Бэй Бін. Выходзіць, што перавыданні ў разлік не ідуць. Значную аснову складаюць кнігі адукацыйныя, разлічаныя на юнага чытача. Але і мастацкая літаратура займае моцныя пазіцыі. Разам са спадаром Бэй Бінам разглядаем выдавецкі каталог. Звяртаю ўвагу на тое, што літаральна ўсе выданні багата ілюстраваны. Цікаўлюся, наколькі ў «Змене» ўважлівыя да замежных літаратур.

— Цяпер вельмі шмат перакладаем з англійскай мовы, — расказвае дырэктар выдавецтва. — Раней у большай ступені арыентаваліся на рускую літаратуру.

— Ведаю, што ў Кітаі выходзілі кнігі Янкі Маўра, — спрабую перавесці размову «на беларускія рэйкі». Але не атрымліваецца. А вось пра Ліханава, Алексіна кітайскі пісьменнік гаворыць з ахвотай сам.

— Першае, што мы маглі б зрабіць у стасунках з вамі, — дзеліцца развагамі спадар Бэй Бін, — дык гэта наладзіць супрацоўніцтва ў выданні тонкіх кніг, якія раскажуць кітайскім дзецям пра Беларусь, а беларускім — пра Кітай. І, дарэчы, ілюстраваць іх змаглі б мастакі абедзвюх краін…

Спадар Чжан Хунба ўдакладняе, што паміж Кітаем і Беларуссю падпісана пагадненне аб рэалізацыі праграмы пра пераклад і выданне лепшых твораў нацыянальных літаратур. Добра было б, каб гэтыя праграмы пашыраліся для ўключэння твораў сучаснай дзіцячай літаратуры. Хіба не цікава кітайскім школьнікам будзе адкрыць аповесці Алега Ждана, Алеся Бадака, Генадзя Аўласенкі?

## БЕЛАРУСЬ ЯК КРАІНА ДАСЛЕДАВАННЯ

Знаёмая яшчэ з мінулай паездкі ў Кітай у маі 2015-га дэкан факультэта рускай філалогіі 2-га Пекінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта спадарыня Чжан Хуэйцінь запрашае наведаць ва ўніверсітэт. Абяцае сустрэчу з цікаўнымі да беларускай літаратуры выкладчыкамі і магістрантамі. Так яно і ёсць.

У мікрараёне пад назвай «Ранішняе сонца» (а па-кітайску — Шааян), зусім на другім баку Пекіна ад месца, дзе праходзіў наш форум, у самых агульных абрысах знаёмлюся з універсітэцкім і студэнцкім жыццём Кітая. У ролі перакладчыка — юная магістрантка Маша, якая займаецца вывучэннем творчасці Святланы Алексіевіч. Збіраецца сваю навуковую працу прысвяціць менавіта яе кнігам.

На факультэце мы найперш наведваем Цэнтр даследавання Беларусі. Абсталяваны з дапамогай беларускага пасольства, ён поўны кніг сучасных беларускіх літаратараў. Сярод іншых твораў у гэтай «беларускай бібліятэцы ў Кітаі» знаходжу кнігі Мікалая Чаргінца, Георгія Марчука, Уладзіміра Саламахі, Міколы Маляўкі, Алеся Бадака, Алега Ждана, Таццяны Сівец ды іншых. Ёсць і беларускія літаратурна-мастацкія часопісы.

— Нам вельмі патрэбны кнігі па гісторыі і культуры Беларусі, — зазначае спадарыня Чжан Хуэйцінь. — Безумоўна, у праграму навучання мы гатовыя ўключыць і перакладчыцкія памкненні нашых студэнтаў. У планах — і выданне факультэцкага часопіса ці альманаха, прысвечанага Беларусі. Ужо падрыхтаваны першыя артыкулы. Мы нядаўна правялі апытанне нашых магістрантаў. І складваецца неблагое ўражанне ад іх ведання Беларусі. Паспрыяў гэтаму, відавочна, і нядаўні візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Пекін, як і візіт нашага старшыні ў Беларусь у маі 2015 года. Мы вельмі прасілі б вас наладзіць абмен і электронай інфармацыяй. Цікавіць нас і тое, як складваюцца адносіны ў беларусаў з кітайскай культурай, кітайскай літаратурай.

У размове ўдзельнічае і выкладчык рускай літаратуры Сяргей Сюй. Канечне ж, Сяргей — гэта пераклад яго кітайскага імя. Ён піша работу па творчасці Аляксандра Салжаніцына, а таксама цікавіцца творамі рускіх, савецкіх пісьменнікаў пра Вялікую Айчынную вайну. Я расказваю Сяргею пра Васіля Быкава, Івана Шамякіна, якіх, дарэчы, вельмі шмат выдавалі па-кітайску. Выкладчык лінгвістычнага ўніверсітэта яшчэ не знаёмы з іх творчасцю, але абяцае кнігі беларускіх класікаў пашукаць. Спадарыня Чжан з пэўнай горычу заўважае: «Дык гэта ж вядомыя пісьменнікі…» Але Сяргей маладзейшы, чым кіраўнік факультэта. І тут, пэўна, спрацаваў парадокс часу. Сённяшняя кітайская моладзь больш цягнецца да амерыканскай, англійскай, магчыма, нямецкай літаратуры, да літаратур краін Лацінскай Амерыкі. А вось старэйшыя добра ведаюць савецкую літаратуру, якую ў Кітаі заўжды шмат выдавалі. Заўважым: шмат з кніг Івана Шамякіна пабачылі свет у Кітаі нават у прахалодны перыяд савецка-кітайскіх адносін. Спадар Сюй расказвае пра створаны ва ўніверсітэце Цэнтр параўнальнага літаратуразнаўства, выкладае ініцыятыву рэалізаваць яго сіламі і які-небудзь беларуска-кітайскі даследчыцкі праект.

У цэнтры — галерэя партрэтаў праслаўленых беларусаў. На выявах — і беларускія пісьменнікі: Купала, Колас, Караткевіч, Быкаў, Багдановіч, Барадулін. Дапаўняе гэтую частку галерэі Францыск Скарына.

… Знаёмства з 2-м Пекінскім лінгвістычным універсітэтам я завяршаю ў бібліятэцы. Некалькі залаў з дзясяткамі тысяч тамоў. Паспяваем за кароткі час агледзець збольшага стэлажы з савецкай літаратурай. Вельмі шмат кніг палітычнага характару. Захоўваюць даўно забытыя намі Збор твораў І. Сталіна, класічны зборнік яго работ «Пытанні ленінізма». Знаходжу вядомую на ўвесь навуковы свет энцыклапедыю беларускага даследчыка М. Булахава, прысвечаную «Слову пра паход Ігаравы».

*„Сённяшняя кітайская моладзь больш цягнецца да амерыканскай, англійскай, магчыма, нямецкай літаратуры, да літаратур краін Лацінскай Амерыкі. А вось старэйшыя добра ведаюць савецкую літаратуру, якую ў Кітаі заўжды шмат выдавалі. Заўважым: шмат з кніг Івана Шамякіна пабачылі свет у Кітаі нават у прахалодны перыяд савецка-кітайскіх адносін.*

Побач — томік з серыі «Бібліятэка паэта» з рознымі перакладамі «Слова…». У тым ліку — і з перакладам Ігара Шклярэўскага, ураджэнца Магілёўшчыны. Шмат кніг па літаратуразнаўстве, выдадзеных у самыя розныя дзесяцігоддзі. Радуюся, калі прама ў вочы кідаецца двухтомнік Міхася Лынькова «Векапомныя дні». Зразумела, на рускай мове. І ўвогуле дзівам для мяне становіцца сустрэча з томікам «Сымон-музыка» Якуба Коласа, які выдадзены ў Мінску па-беларуску з ілюстрацыямі славутага Міколы Селешчука. Знаходжу і «У вайны не жаночы твар» Святланы Алексіевіч у перакладзе на кітайскую мову. А таксама — маскоўскае выданне аповесцей Васіля Быкава.


Гарадскія краявіды.

## ТРАДЫЦЫЯ НА СЁННЯ І ЗАЎТРА

З ужо знаёмым вам Чжанам Хунба, а яшчэ з беларускай Марынай Каліцкай, якая выкладае ў адной з пекінскіх ВНУ рускую мову, ды спадарыняй Лю Мяа з 2-га Пекінскага лінгвістычнага ўніверсітэта наведваемся да кітайскага перакладчыка і мастака-каліграфа Гаа Мана. У яго ўтульнай кватэры, поўнай кніг на розных мовах свету, у апошнія гады пабывалі шмат хто з беларускіх пісьменнікаў, журналістаў, навукоўцаў. Саюз пісьменнікаў Беларусі ўзнагародзіў Гаа Мана медалём «За вялікі ўклад у літаратуру».

І ў гэтую сустрэчу — размова пра Беларусь, пра беларускую літаратуру. Гаа Ман цікавіцца, як ставяцца сёння да творчасці народнага паэта Беларусі Максіма Танка, узгадвае першую з ім сустрэчу. У цягніку, якім яны разам вярталіся з замежнай паездкі па Еўропе. А пасля ўспамінае, з якой вялікай цікаўнасцю Максім Танк знаёміўся з Кітаем. І як ён хацеў сустрэцца з мастаком Ці Байшы, якога на той час (найперш як лаўрэата Міжнароднай прэміі міру) добра ведалі ў СССР. Але каліграф, які праславіўся сваімі цыкламі «Кветкі-птушкі», «Насякомыя-травы», памёр 16 верасня 1957 года, літаральна за некалькі тыдняў да прыезду Максіма Танка ў Кітай. І як яны пасля разам — малады кітайскі перакладчык і ўжо вядомы беларускі паэт, лаўрэат Сталінскай прэміі, — паехалі на магілкі. Хаця б такім чынам Максім Танк хацеў персаніфікаваць свае ўражанні аб творчасці вялікага Ці Байшы…

Разглядаючы кнігі ў бібліятэцы Гаа Мана, поглядам выхопліваю профіль Міцкевіча на адной з кніг. Ёмісты зборнік польскага класіка на кітайскай мове. Выданне нядаўняе. Заўважаю, што Міцкевіч нарадзіўся ў Беларусі. Гаа Ман расказвае пра перакладчыка, які, як высветлілася, жыве ў яго ж доме. Лін Хунлян — так завуць калегу Гаа Мана па перакладчыцкіму цэху. Гаспадар кватэры на некаторы час пакідае нас і праз некалькі хвілін прыносіць том Міцкевіча на кітайскай мове з аўтографам перакладчыка…

Не хочацца развітвацца з Гаа Манам, ды ўсё ж… Пісьменніку восьвось споўніцца 89 гадоў. Ды трэба шанаваць і час яго, і даць магчымасць адпачыць. Ужо на вуліцы Чжан Хунба гаворыць, што да Гаа Мана трэба прыводзіць усіх, хто жадае вывучаць у Кітаі славянскія літаратуры. Перакладчык — само натхненне на вялікія справы.

А я, пакідаючы Пекін, назбіраўшы ў кітайскай сталіцы новых уражанняў, думаю пра тое, што вялікі, незамутнёны мастацкі свет якраз тады і развіваецца, калі ёсць магчымасць параўноўваць. Калі ёсць магчымасць назіраць, як сустракаюцца розныя краіны, народы, культуры.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# Дызайн ад Дзягілева



**Аўтар больш як 60 навуковых публікацый па праблемах сінтэзу мастацтваў і архітэктуры, падручнікаў для вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў мастацкага профілю, удзельнік міжнародных навуковых канферэнцый… За 75-гадовы жыццёвы шлях беларускім мастаком і педагогам Леанідам Дзягілевым зроблена шмат.**

Маленькім хлапчуком ён прайшоў выпрабаванні, якія выпалі на долю дзяцей вайны. Выжыў — і здзейсніў мару маляваць.

У 1958 годзе Леанід Яўсеевіч скончыў Віцебскае мастацка-графічнае вучылішча ў педагога-мастака Валянціна Дзежыца. Займаўся праектаваннем інтэр'ераў, афармленнем Мемарыяльнага музея М. Шмырова на Віцебшчыне, расонскага Дома культуры...

Пасля арміі — Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча імя В. Мухінай, дзе набыў больш глыбокія веды па інтэр'еры і абсталяванні ў педагога Васіля Пятрова: больш увагі стаў надаваць малюнку і колеру. У 1982 годзе скончыў аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі па спецыяльнасці «Гісторыя мастацтваў», што і стала яго асноўнай справай. З 1984 года працуе ў Беларускай акадэміі мастацтваў — прарэктар па навуковай рабоце, прафесар кафедры, дацэнт. Сёння Леанід Дзягілеў узначальвае кафедру дызайну ў Інстытуце сучасных ведаў імя А. Шырокава, дзе навучаюцца студэнты па двух кірунках: дызайн прадметна-прасторавага асяроддзя і дызайн віртуальнага асяроддзя. Сярод вучняў Леаніда Яўсеевіча — вядучыя мастакі і дызайнеры.

Працуе ў графіцы і акварэлі. Партрэт яго рукі «Чэмпіён Мікалай Грабнёў» сярод сотні карцін, напісаных спецыяльна для рэспубліканскай выстаўкі, прысвечанай спорту (1985). Мастак шмат падарожнічаў, занатоўваў назіранні на карцінах. Так з'явіўся цыкл «Па Цюмені», дзе паказана жыццё і быт жыхароў Заходняй Сібіры. Напісаныя мастаком партрэты хантаў, якія адпачываюць у юртах, і сёння прываблiваюць сваёй арыгінальнасцю, непаўторнасцю выканання, рытмічнай пабудовай і фарбамі.

Намаганнямі Леаніда Дзягілева у Беларусі была пашырана сетка сярэдніх мастацкіх навучальных устаноў у кожнай галіне, створана Мінская гімназія-каледж мастацтваў на базе сярэдняй школы з мастацкім ухілам. Працуючы дырэктарам Дырэкцыі мастацкіх выставак Міністэрства культуры Беларусі, арганізаваў звыш сотні персаўных выставак беларускіх мастакоў. На аснове фондаў жывапісных, скульптурных, графічных работ і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва быў створаны Беларускі музей сучаснага выяўленчага мастацтва.

Леанід Дзягілеў і сёння поўны сіл і энергіі працаваць і тварыць. А натхняе яго жонка Галіна Аляксееўна, у свой час — артыстка Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа, Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра, майстар мастацкага слова ў Белдзяржфілармоніі. З 1990 года кіраўнік Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра «Зніч». Дачка Дзягілевых — Ксенія — вядомая беларуская мастачка, шасцёра ўнукаў таксама актыўна займаюцца творчасцю.

**Галіна ШУВАЛАВА**

# Божы след

**«Крыжовы шлях — дошка, аловак, акрыл» — такую назву атрымала выстаўка Андруся Такінданга ў Цэнтры сучасных мастацтваў.**

Экспазіцыя складаецца з 14 абразоў, замоўленых у аўтара для касцёла вёскі Лучаі. Нягледзячы на рэлігійнасць твораў і ўвогуле канaнізаванасць жанру, карціны далёкія ад акадэмізму — на першы план выходзіць індывідуальнасць мастака, яго светабачанне. Дарэчы, Андрусь Такінданг — яшчэ і музыкант, тэлевядучы, паэт, чалавек, які імкнецца да новых гарызонтаў у творчасці, не баіцца эксперыментаваць. Словам, асоба каларытная. Ролю сыграла і афрыканскае паходжанне маладога чалавека, ды з яго вуснаў чуецца мілагучная беларуская мова.



Вобразы на палотнах пабудаваныя з улікам некалькіх планаў, з перавагай яркіх, сакавітых колераў, незвычайных ракурсаў. Адлюстроўваецца лёс Ісуса Хрыста і аднachасова — жыццёвая дарога кожнага чалавека з яе выпрабаваннямі і радасцямі.

Сярод асноўных месца знайшлося і графічным аркушам аўтара. Гэтыя пейзажныя і партрэтныя замалёўкі ўвойдуць у кнігу «Магічная мапа» з аповедамі пяцідзесяці аўтараў пра блізкія ім мясціны. Робіцца ўражанне, што сам Хрыстос крочыць па куточках Беларусі.

Старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, які ведае Андруся Такінданга шмат гадоў, адзначыў на адкрыцці выстаўкі: «Увесь час з вялікай радасцю назіраю за яго творчасцю. І зноў шчыра ўражаны! Андрусь паказвае многім людзям прыклад — і працавітасцю, і выхаванасцю, і павагай да беларускага слова. Гэта абсалютна сфарміраваны мастак са сваім непаўторным творчым абліччам».

— Пісаў крыжовы шлях — быццам будаваў дом, касіў траву ці рабіў якую-небудзь простую працу, — кажа пра свой твор сам аўтар. — Гэты сакральны сюжэт даўно канaнізаваны ў мастацтве, таму не мусіў залішне мудрагеліць: дошка, аловак, акрыл…

**Марыя ВОЙЦІК**

## З пошты «ЛіМа»

# На сцэне — «Брастаўчанка»



Народны ансамбль песні і танца «Брастаўчанка» нядаўна пабываў разам з дэлегацыяй адміністрацыі Маскоўскага раёна горада Брэста ў Славацкай Рэспубліцы. Атрымаўся трыумф музыкі, песні і танца, у якіх адлюстроўваецца быт і культура Беларусі.

Нядзіўна: «Брастаўчанка» — гэта цудоўнае спалучэнне аркестра, хору і танцавальнай групы пад кіраўніцтвам балетмайстра Леаніда Фейгіна, кіраўніка аркестра Уладзіміра Савацеева, кіраўніка харавой групы Валерыя Баркова. Створаны ў часы Савецкага Саюза (1968 г.) работнікамі Брэсцкага электрамеханічнага завода, ансамбль у 1971 годзе атрымаў званне «Народны самадзейны калектыў». Гурт з поспехам выступаў на лепшых сцэнах Адэсы, Рыгі, Каўнаса, Батумі, Казані і іншых гарадоў. Творчыя кантакты і сяброўскія сувязі з'явіліся дзякуючы выступленням у Польшчы, Югаславіі, Бельгіі, Германіі, Балгарыі, Францыі, Грэцыі, Іспаніі ды інш.

**Людміла БАЮРА, Міхаіл СТРАЛЕЦ**

# Падарожжа ў эпоху Анегіна

**X Міжнародны фестываль Юрыя Башмета адкрыўся ў Мінску 28 верасня. Прывітанне гасцям і ўдзельнікам юбілейнага форуму накіраваў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.**

У Вялікай зале Палаца Рэспублікі на адной сцэне сустрэліся разам аркестр, спевакі, акцёры. У афішы — салісты Вялікага тэатра Расіі, Марыінскага тэатра, тэатра Зальцбурга, Дзяржаўны сімфанічны аркестр «Новая Россия» пад кіраўніцтвам Юрыя Башмета, народны артыст Расіі Канстанцін Хабенскі і многія іншыя.

Маштабы праекта ўражваюць. Каля ста артыстаў аднaчасова з'ехаліся з розных куткоў свету, каб адсвяткаваць юбілей фестывалю ў Мінску захапляльным сумесным выступленнем у оперы П. Чайкоўскага «Яўгеній Анегін» у аўтарскай версіі Юрыя Башмета.

Музычныя нумары знакамітай оперы арганічна перапляліся з чытаннем фрагментаў з аднайменнага рамана ў выкананні акцёраў Канстанціна Хабенскага і Вольгі Літвінавай. Сінтэз музыкі, вершаў і выканальніцкага драматычнага майстэрства — як рамантычнае падарожжа ў эпоху Анегіна і Таццяны.

Лепшыя рэжысёры, гукарэжысёры, мастакі па святле, відэаінжынеры спецыяльна былі запрошаны з Масквы для таго, каб забяспечыць якасць і відовішчнасць адкрыцця фестывалю.

Аўтарская версія «Яўгенія Анегіна» — маштабная праца, у якой Юрыю Башмету дзіўным чынам атрымалася аб'яднаць у арыгінальным матэрыяле класічныя традыцыі рускай музыкі, мелодыю паэзіі і сучаснасць гучання, захаваўшы атмасферу рамана Аляксандра Пушкіна.

Юбілейны фестываль абяцае стаць асаблівым. Ён ізноў парадуе слухачоў пышнымі праграмамі, незвычайнымі праектамі і, вядома, майстэрствам сусветных зорак, якіх мастацкі кіраўнік фэсту, вядомы беларускі піяніст Расціслаў Крымер сабраў у Мінску.

Сёння ў праграме «Лепшыя аркестры свету» сыграе знакаміты Уральскі філарманічны аркестр пад кіраўніцтвам народнага артыста Расіі Дзмітрыя Ліса. У якасці салістаў выступяць двойчы лаўрэат конкурсу П. Чайкоўскага віяланчэліст Аляксандр Бузлоў і лаўрэат конкурсу Г. Веняўскага — скрыпачка Аліса Маргуліс.

Вядомы ў свеце інтэрпрэтатар Моцарта, легендарны венскі піяніст Паўль Бадура-Шкода прадставіць 3 кастрычніка міжнародны калектыў *East-West Chamber Orchestra* пад кіраўніцтвам свайго калегі — вядомага беларускага піяніста Расціслава Крымера. У складзе аркестра выступяць лепшыя музыканты з Усходняй і Заходняй Еўропы. На «Вечары Венскай класікі» загучыць В. Моцарт. Чакаецца, што акрамя заяўленай праграмы будуць яшчэ і музычныя сюрпрызы!

Знакаміты «Терем-квартет», які выступаў перад статысячнай аўдыторыяй і Папам Рымскім Іаанам-Паўлам ІІ у Ватыкане, на Алімпійскіх гульнях, выступіць на фэсце 7 кастрычніка.

На канцэрце «Легенда на скрыпцы Страдывары» сусветна вядомы Юльян Рахлін сыграе на адной з самых дарагіх скрыпак геніяльнага майстра Антоніа Страдывары. Канцэрт адбудзецца 9 кастрычніка ў Вялікай зале філармоніі.

**Ганна ШЫМУК**

# Ганарыцца сваім

**Літаратурны працэс развіваецца, як і ва ўсім свеце, у дзвюх плоскасцях: індывідуальнай і грамадскай. Да першай можна аднесці з'яўленне літаратурных твораў, якія ў першую чаргу залежаць ад таленту паэта, празаіка, драматурга, публіцыста. Да другой — ступень духоўнага развіцця грамадства, яго густаў, модных тэндэнцый, зацікаўленасці інстытутаў ідэалогіі ў прапагандзе і вывучэнні высокамастацкіх твораў, у матэрыяльным стымуле пісьменнікаў. Літаратура, як і музыка, тэатр, жывапіс, — адна з цаглін агульнай культуры краіны і асобы.**



Кансерватызм у літаратуры не заўсёды шкодзіць цікавасці да яе, як і мадэрнізм, постмадэрнізм ніколі штучна не ўзвысіць слабы твор да шэдэўра. Тэмы твораў айчынных аўтараў традыцыйныя: лірыка, каханне, патрыятызм, сямейныя каштоўнасці, цікавасць да гісторыі, да роднай мовы, фальклору. Колькі пісьменнікаў, столькі і падыходаў да рэчаіснасці. Вялікая сіла рэалізму толькі дапамагае творцам. А люд наш, дзякуй богу, яшчэ не страціў цікавасці да кнігі, да свайго мастацтва. Пра гэта сведчыць Дзень беларускага пісьменства ў цудоўным горадзе Шчучыне. Няма сэнсу пераказваць сцэнарый свята, хочацца прыгадаць толькі асноўнае — сустрэчы пісьменнікаў з жыхарамі і гасцямі горада. Дзеля гэтага і ладзіцца фэст! Усё атрымалася: і конкурс юных чытальнікаў «Жывая класіка», і вершы ды песні на пляцоўцы ў цэнтры горада.

> *Перамены могуць быць толькі з улікам рэалій рэсурсаў, тэхналогій і павагі да створанага. Так і ў літаратуры. Мы павінны ствараць сваіх герояў, сучасных, крытыкаваць у сатыры тое, што можа загубіць чалавечую душу, разбурыць нацыянальную свядомасць.*

Што да прэлюдыі... У Шчучын ехала мінская каманда аж з 40 пісьменнікаў ды бібліятэкараў. Дзве з паловай гадзіны камфортным аўтобусам. Выехалі рана, недаспаўшы... І вось старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў прапануе імправізаваны канцэрт-знаёмства. Дзе той сон і падзеўся! Падумалася: як жа мала мы ведаем творчасць, жыццё і погляды адно аднаго. Якія людзі таленавітыя, кожны па-свойму… Мудры гісторык літаратуры Уладзімір Навумовіч цікава і глыбока пазнавальна распавёў пра Дамейку, Чачота, Міцкевіча, якія вучыліся ў Шчучыне. Многія з нас чулі гэты аповед упершыню. Слухалі з захапленнем!

Яго паэтычны настрой падхапілі маладыя паэтэсы Маргарыта Латышкевіч і Людміла Клачко. Сябры мае, не верце ў заняпад маладой беларускай паэзіі! Яна ёсць! У ёй — і даўніна традыцый, і навізна, якая кранае душу.

Цікава расказаў пра свае знаёмства і апеку з боку народнага паэта Петруся Броўкі паэт і празаік Ганад Чарказян. Паэтэсы Лізавета Палеес і Алена Міхаленка здзівілі глыбінёй і філасафічнасцю лірыкі.

Бібліятэкары пачалі спяваць народныя песні. У такой атмасферы хацелася ехаць не толькі ў Шчучын, а хоць да Варшавы. А па дарозе паэты Дзмітрый Пятровіч ды Мікола Шабовіч падарылі жанчынам вытанчаную лірыку, цудоўную паэзію кахання. І тут маці адной бібліятэкаркі (яна ехала разам з намі), акрыленая духам свята, заспявала ўкраінскія песні — сама ўкраінка. Гэта ўразіла ўсіх. Сам лёс яшчэ раз узмацніў думку: як хораша разам! Духоўнасць мацуе любоў!

І зноў гучалі вершы. Яна Явіч пазіцыяніравала сябе як самабытны паэт. Падумалася: мала мы хвалім маладых, чаму не ладзім вялікіх паэтычных вечароў з іх удзелам?

Мінск, на жаль, не мае міжнароднага свята паэзіі. А гэта горад, у якім тварылі выбітныя майстры паэтычнага слова. Ды і сёння нашы паэты не саступаюць паэтам-папярэднікам. Такое свята надало б краіне імідж.

Імправізаваны канцэрт яшчэ раз сцвердзіў ісціну — літаратары, дзеячы культуры, творцы павінны самі браць актыўны ўдзел у стварэнні культурнага асяродка. Старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ Людміла Кебіч бліскуча выступіла ў якасці вядучай канцэрта паэтаў, таксама распавяла, што і яны ладзяць такія канцэрты ў аўтобусе, калі выпраўляюцца ў доўгую дарогу.

Мы павінны не зайздросціць адно аднаму, а радавацца поспеху калегі, папулярызаваць яго творчасць, ганарыцца сваімі талентамі. А часта замоўчваем таленавітыя імёны. Дзеля адчэпу называем Купалу, Коласа, Багдановіча — быццам на іх скончылася беларуская літаратура. Нашае за нас ніхто не зробіць. Еўропе не да беларускай літаратуры, ды і перакладчыкаў там не засталося, акрамя Польшчы ды Італіі.

> *Часам на сустрэчах з чытачамі мы, не валодаючы інфармацыяй у галінах эканомікі, палітыкі, сельскай гаспадаркі, не маем што адказаць слухачам на іх пытанні. Танцуем, як кажуць, вакол уласнай творчасці ды чытаем вершы. Гэта добра, але недастаткова.*

Упэўнены, з часам трэба стварыць інстытут перакладчыкаў — такі, як у Расіі. Няхай сабе не інстытут, а хаця б аддзел у цэнтры акадэміі. Нам ёсць што паказаць свету. Незалежнасць і самастойнасць краіны — гарант свабоды слова і творчасці. Вось чаму слова пісьменніка мусіць быць важкім і адказным. Часам на сустрэчах з чытачамі мы, не валодаючы інфармацыяй у галінах эканомікі, палітыкі, сельскай гаспадаркі, не маем што адказаць слухачам на іх пытанні. Танцуем, як кажуць, вакол уласнай творчасці ды чытаем вершы. Гэта добра, але недастаткова. Пісьменнік — асоба, і ад яго хочуць пачуць уласнае меркаванне пра жыццё народа. Да свайго сораму, і я толькі параўнальна нядаўна даведаўся, што Беларусь валодае досыць сціплымі прыроднымі рэсурсамі — 0,18 працэнта сусветных сельгасугоддзяў. Аднак нам не сорамна перад іншымі дзяржавамі ў плане вытворчасці і экспарту сельгаспрадукцыі. А 7-е месца ў сусветным экспарце малака і малочных прадуктаў — хіба ж гэта не гонар? У сусветным рэйтынгу па харчовай небяспецы, мне вядома, Беларусь стала 44-й з 109 краін.

Часта на сустрэчах папракаюць: чаму ў нас усё не так, як у Польшчы, а горш? Шаблон нейкі. Нікога не цікавіць, што ў Польшчы 30 мільёнаў насельнікаў, што яна мае салідныя датацыі з Еўрасаюза менавіта на сельскую гаспадарку. Скептыкі часам крывяць твар: набудавалі аграгарадкоў, а сэнсу мала. Адкуль яны ведаюць, што мала? Няўжо пабывалі ў гэтых сотнях гарадкоў і на свае вочы бачылі людзей працы на зямлі? Сумняваюся. Спяваюць з чужых слоў…

Барацьба за погляды і перакананні людзей ідзе пастаянна. Перамены могуць быць толькі з улікам рэалій рэсурсаў, тэхналогій і павагі да створанага. Так і ў літаратуры. Мы павінны ствараць сваіх герояў, сучасных, крытыкаваць у сатыры тое, што можа загубіць чалавечую душу, разбурыць нацыянальную свядомасць. Літаратура ўсё ж павінна натхняць на каханне, на працу, на незалежнасць думкі. І абавязкова — на любоў да Радзімы. Пра яе наш клопат, а яе клопат — пра нас.

**Георгій МАРЧУК**

*У кантэксце*

## Юрый КАЗЛОЎ:

# «Тут разумеюць, як жыць»

**Якой бачыцца Беларусь, у тым ліку літаратурная, з бліжняга замежжа? Гэтае ды іншыя пытанні карэспандэнт «ЛіМа» адрасавала галоўнаму рэдактару расійскага часопіса «Роман-газета» Юрыю Казлову.**



**— Юрый Вільямавіч, з якіх аўтараў пачалося ваша знаёмства з беларускай літаратурай?**

— У перакладзе на рускую мову я чытаў Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Танка. З празаікаў — Івана Мележа, Івана Шамякіна, Васіля Быкава, а яшчэ — публіцыстыку Алеся Адамовіча. Увогуле, за савецкім часам літаратурны працэс быў адзіным, і пісьменніцкія стасункі ды творчы абмен у тых умовах былі больш эфектыўнымі. Але тым не менш нашы сённяшнія міжкультурныя, міжлітаратурныя кантакты трэба цаніць!

Сёлета я ў трэці раз удзельнічаў у святкаванні Дня беларускага пісьменства. Сучасны чытач мае магчымасць ацаніць характар друкаванага слова, вызначыць для сябе маральныя арыенціры. Няхай не кожны цікавіцца літаратурай прафесійна, але прыналежнасць да пэўнага народа, да яго культуры, мовы, духоўных ідэалаў удасканальвае чалавека. А гэта, у сваю чаргу, спрыяе духоўнаму аздараўленню нацыі.

**— Недалёка ад Беларусі месціцца ваша лецішча. Якой адтуль бачыце нашу краіну?**

— Гэты дом, дакладней, два дамы, — у вёсцы Прудок Невельскага раёна, за дзевятнаццаць кіламетраў ад расійска-беларускай мяжы. Лецішча перайшло мне ў спадчыну ад бацькі, пісьменніка, ураджэнца Пскоўшчыны. Я прыязджаю туды кожнае лета, гляджу беларускае тэлебачанне, слухаю беларускае радыё, кантактую з жыхарамі Беларусі — простымі людзьмі, далёкімі ад літаратуры… Я заспеў тыя часы, калі на расійскім рынку спажывецкіх тавараў была выключна беларуская прадукцыя. Сёння Беларусь годна выбудоўвае сацыяльную палітыку, вялікая ўвага тут надаецца выхаванню асобы, ды і сам народ разумее, як трэба жыць.

**— Ці плануецца выпусціць беларускі нумар «Роман-газеты»?**

— Гэтае пытанне ўжо абмяркоўваецца. Увогуле, лічу, што такія нумары прыносяць вялікую карысць. Калі б расійскія чытачы былі ў большай ступені знаёмыя з беларускімі аўтарамі, то разумелі б духоўныя памкненні, погляды людзей. Даносіць сутнасць актуальных праблем сённяшняй Беларусі, духоўны дыскурс да расійскага чытача — такая мэта, на маю думку, павінна быць у беларускіх нумароў расійскіх літаратурных часопісаў. Для напаўнення адпаведнага нумара «Роман-газеты» патрэбна проза, здольная адлюстраваць духоўныя пошукі сучаснага беларускага грамадства. Цяжка пакуль сказаць, чые канкрэтна гэта будуць творы, але вельмі б хацелася бачыць сярод аўтараў такога нумара часопіса Алега Ждана, Уладзіміра Саламаху, Алеся Бадака.

**Яна ЯВІЧ**

# Маладзечанскія радкі

**Гэтых паэтаў, празаікаў, публіцыстаў і перакладчыкаў — усяго трыццаць тры імёны — аб'ядноўвае сувязь з маладзечанскай зямлёй, з літаратурным жыццём рэгёна. Зборнік атрымаў назву «Там, дзе Уша серабрыцца... Маладзечаншчына літаратурная» (Маладзечна, «Типография «Победа», 2015). Выданне падтрымалі Маладзечанскі райвыканкам і Маладзечанская бібліятэка імя Максіма Багдановіча. Укладальнік — мясцовы краязнаўца, бібліяфіл Міхась Казлоўскі.**

Геаграфія літаратурнага зборніка ўключае і такія вядомыя мясціны, як Ракуцёўшчына і Вязынка, і менш вядомыя Маркава, Лебедзева, Беніца, Гарадок, Аўгустаў ды Хутарок. Шырокая і «геаграфія імёнаў»: згадваюцца Адам Міцкевіч, Міхал Клеафас Агінскі, Максім Багдановіч, Якуб Колас, Янка Брыль, Яўхім Карскі, Мікола Ермаловіч, Генадзь Каханоўскі, Мікалай Рубцоў...

Літаратурнае жыццё Маладзечна мае даўнія традыцыі. Тут працягваюць працу літаратурныя аб'яднанні «Купалінка» і «Агмень», выходзіць часопіс «Куфэрак Віленшчыны».

Заўжды цікава пазнаёміцца з поглядам іншых людзей на родны горад, асабліва калі людзі гэтыя творчыя, маладыя. Пераважная большасць аўтараў зборніка — паэты (23 з 33). Вядома, пра ўсіх распавесці немагчыма. Спынімся на тых, што падаліся аўтару гэтых радкоў найбольш цікавымі.

Пра Галіну Асіповіч напісана: «паэтка, мемуарыст». Яе ўспаміны «Сцяжынкі родныя дзяцінства» прысвечаныя памяці Юльяна Іосіфавіча Сергіевіча, сельскага інтэлігента, паэта, асветніка, чалавека з цяжкім лёсам, які моцна паўплываў на светапогляд Галіны. Мемуары гэтыя хутчэй можна аднесці да прозы жанру *non-fiction*; аўтарка ўдала спалучае ў тэкстах краязнаўства, гісторыю і ўспаміны пра згубленае.

Адзін з найстарэйшых аўтараў Маладзечна — публіцыст, празаік, у мінулым галоўны рэдактар «Маладзечанскай газеты» Аляксандр Хазянін. Ён часта звяртаецца да такога літаратурнага жанру, як творчы партрэт пісьменніка, сёння не такі распаўсюджаны. Публіцыст удумліва вывучае біяграфіі літаратараў, знаёміць чытачоў з літаратурнымі навінкамі. Яго артыкулы часта можна сустрэць у рэспубліканскіх выданнях. Гэта добрая традыцыя — аповед пісьменніка пра пісьменніка.




Змешчаны ў зборніку артыкул «Шчыраму сэрцу і чужая болька баліць» прысвечаны пісьменніку Янку Галубовічу, празаіку, калегупубліцысту, які нядаўна пайшоў з жыцця.

Нарыс пра гісторыка, краязнаўца Генадзя Каханоўскага, першага яе настаўніка і натхняльніка ў літаратуры, стварыла Тамара Бунта.

Няма такога паэта, які б не пісаў пра родны дом, бацькоў, сяброў, што засталіся ў дзяцінстве. Тэмы ў беларускай паэзіі не новыя, але без іх нельга. У вершах Кастуся Цыбульскага — любоў і трывога за блізкіх, да даўно пакінутых мясцін. Яны памятаюцца ўсё жыццё, не адпускаюць у снах. З гадамі гэтая сувязь мацнее так, што прыходзіць пераасэнсаванне каштоўнасцей.

*Тры акны…*
*На фіранках — месяцы,*
*За фіранкамі*
*Спее раніца…*
*Успамінамі цеста месіцца,*
*Успамінамі ў печы паліцца…*
(«Вялікдзень»)

У невялікую паэтычную падборку ўвайшлі вершы ўсё той жа тэматыкі: «Мой край», «Бярозы», нават дзіцячы вершык «Сказ пра ката» можна аднесці да гэтага шэрагу.

З больш маладых аўтараў адзначым Таццяну Атрошанка, Настассю Нарэйка, Генадзя Пшэнніка, Аксану Ярашонак.

Паэткі Н. Нарэйка і А. Ярашонак блізкія па ўзросце, абедзве — з Маладзечна, але як адрозніваюцца іх стылі, бачанне свету, тэмы!.. Настасся Нарэйка не баіцца складаных форм. Піша пра выпрабаванні каханнем, першыя расчараванні і страты. У вершах Аксаны Ярашонак шмат прысвячэнняў; так, «Мой філфак» прысвечаны выкладчыку і паэту Міколу Шабовічу.

Мова маладых аўтараў, новага інтэрнэт-пакалення, часам, лічу, прайграе мове старэйшых творцаў. У першых шмат запазычанняў, і, здараецца, шматлікасць гэтая ператвараецца ў злоўжыванне. Каб стаць адметным, варта паспрабаваць іншамоўнае перастварыць на свой лад; шукаць, шукаць — і знаходзіць непаўторнае.

Таксама ў зборнік увайшлі чатыры рэцэнзіі літаратурнага крытыка Ціхана Чарнякевіча. Будзем спадзявацца, што такога ўзроўню прафесійная крытыка не знікне са старонак спецыялізаваных выданняў і застанецца для чытача дакладным арыенцірам у свеце сучасных кніг.

«У свой час Генадзь Каханоўскі, пагортваючы чарговы нумар часопіса «Маладосць», з відавочным гонарам прамовіў: «Глядзі, нашы ідуць у літаратуру». Тыя словы з гадамі сталі прарочымі», — згадвае ў прадмове Міхась Казлоўскі. «Нашы» — гэта пра Аляксандра Лазоўскага, Лідзію Гардынец, Вячаслава Дашкевіча, Івана Крупко, Алену Ліхадзіеўскую, Лявона Ціможіна, Таццяну Тамашэвіч, Таісу Трафімаву ды іншых. Імёны беларускіх пісьменнікаў мінулага і сучаснасці — жывая сувязь часоў і пакаленняў, якая ніколі не абарвецца.

**Ірына ШАТЫРОНАК**

# Прачытаць па-сербску

На 52-я Бялградскія міжнародныя сустрэчы пісьменнікаў, што прайшлі ў Сербіі, сёлета прыехала каля 30 літаратараў з Азербайджана, Беларусі, Босніі і Герцагавіны, Балгарыі, Вялікабрытаніі, Грэцыі, Італіі, Македоніі, Польшчы, Румыніі, Расіі ды іншых краін. Па запрашэнні ад Асацыяцыі пісьменнікаў Сербіі Беларусь прадстаўляла маладая паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Людміла Клачко.

Сёлета мерапрыемства было прысвечана пяці памятным датам: 750-годдзю з дня нараджэння вялікага італьянскага паэта Дантэ Аліг'еры, 200-годдзю з дня нараджэння славацкага паэта і грамадскага дзеяча Людавіта Штура, 110-годдзю з дня смерці старшыні Сербскай акадэміі навук і мастацтваў Стояна Новакавіча, 100-годдзю з дня смерці пісьменніка Мілуціна Ускаковіча і 110-годдзю ўтварэння Асацыяцыі пісьменнікаў Сербіі.

У першы дзень адбылася сустрэча замежных гасцей свята ў гістарычным цэнтры Бялграда, дзе і знаходзіцца Асацыяцыя пісьменнікаў Сербіі. Адкрыццё сёлетніх міжнародных сустрэч пачалося ўрачыстай прамовай старшыні Асацыяцыі Радаміра Андрыча. Госці атрымалі ў падарунак зборнік твораў удзельнікаў сёлетніх сустрэч пісьменнікаў на мове арыгінала і ў перакладзе на сербскую.

Назаўтра раніцай — ускладанне кветак да помніка знакамітаму югаслаўскаму пісьменніку Іва Андрычу, лаўрэату Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры (1961). Потым пісьменніцкую дэлегацыю чакаў афіцыйны прыём у мэрыі Бялграда. А яшчэ ў Асацыяцыі пісьменнікаў Сербіі адбыліся пасяджэнні «круглых сталоў», падчас якіх сербскія і замежныя пісьменнікі абмеркавалі актуальныя пытанні сучаснага літаратурнага працэсу. Цэнтральнай падзеяй дня стаў літаратурны вечар на сцэне Нацыянальнага тэатра Бялграда, дзе прагучалі вершы кожнага аўтара-ўдзельніка на роднай мове і ў перакладзе на сербскую.

За два наступныя дні пісьменнікі паспелі выступіць на літаратурных чытаннях у дзесяці гарадах Сербіі. Людміла Клачко трапіла ў знакаміты горад Врнячка Баня, які яшчэ называюць сербскімі Карлавымі Варамі. У гарадской бібліятэцы сабралася шмат аматараў літаратурнага слова, якія з цікавасцю слухалі сербскіх і замежных паэтаў.

Пры канцы мерапрыемства літаратары правялі ў Бялградзе яшчэ некалькі літаратурных мерапрыемстваў, кінуўшы перад ад'ездам у воды рэк Савы і Дуная па сербскім дзінары — каб вярнуцца!

**Алеся ГАРО**

*Штрыхі*

# «Не можа жывое зрабіцца нічым…»



У сучаснага расійскага пісьменніка Аляксандра Сякацкага адзін з герояў аповеду адказвае на пытанне, як адрозніць добрую карціну ад дрэннай, — метадам павуціны.

«Можа быць так, што жывапіс проста матляецца, як пустое павуцінне, сухое, безжыццёвае. І так ідзеш ад карціны да карціны, паглядваеш. І раптам нешта тузанула і стала на месца. Гэта значыць, што павуцінне не пакінутае, значыць, унутры павук. Сапраўдны мастак можа пазбегнуць смерці. Пакуль яго цела адмірае, ён перабіраецца ў створаны ім свет, у сплеценае павуцінне. Калі ўсё зробіць правільна, то ён заўсёды будзе жыць як павук, лавіць погляды, наталяцца імі…»

Нечаканая гэта параўнанне ўзрушыла, прымусіла задумацца. Дастаў з паліцы сваю кнігу «Сюжэт для вечнасці», каб паглядзець на вокладку з рэпрадукцыяй карціны Сяргея Цімохава. Стылізаваная выява хаты, дакладней, паддашка, вузенькае акно і… вока, якое выглядае недзе з-пад самага шпіля… Выглядае з вечнасці і пільна ўзіраецца ў нас, сённяшніх.

Гэтую работу выдатнага творцы дазволіла выкарыстаць на вокладцы ўдава мастака Рыта. А за некалькі гадоў Сяргей адмысловa зрабіў і нават выканаў як гатовы паліграфічны прадукт вокладку да іншай маёй — кнігі «Голас і рэха».

Увогуле, Цімохаў не займаўся аздабленнем кніг. Яго больш вабілі жывапіс, графіка. Але кнігі былі неад'емнымі сябрамі і спадарожнікамі. Відаць, таму так арганічна ўпісваўся Сяргей Цімохаў у кола маладых пісьменнікаў і паэтаў з наваполацкага літаратурнага аб'яднання «Крыніца». Практычна ніводнае пасяджэнне літаратараў, што гуртаваліся пры гарадской газеце «Химик», не абыходзілася без удзелу Сяргея і яго жонкі, таксама мастачкі.

Мы, у сваю чаргу, часта бывалі ў дружнай сям'і дома: і калі яны здымалі кватэру ў Наваполацку, і калі Сяргей, стаўшы галоўным мастаком Полацка, атрымаў доўгачаканае жытло ў мікраранёне старажытнага горада.

Мой сябра дзяцінства Саша Канавалаў стаў адным з тых, каго Цімохаў «рэкрутаваў» у творчае аб'яднанне чатырох, куды ўвайшлі таксама Алег Ладзісаў і Васіль Васільеў. Пра гэтую творчую суполку, якая потым перарасла ў галерэю «Рыса», мяркую, яшчэ не раз напішуць мастацтвазнаўцы. З лёгкай рукі дырэктара камбіната будаўнічых матэрыялаў Уладзіміра Цялежнікава мастакі займелі і ўласную выставачную залу, куды прыязджалі экспанаваць свае работы творцы з Віцебска, Мінска…

Вось што сведчыць аўтар прадмовы да пасмяротнага альбома мастака А. Белявец: «Яго персанальная выстава, што адбылася неўзабаве пасля ім жа створанай галерэі «Рыса», уражвала тонкай працай з прасторай. На падлозе галерэі былі разгорнутыя доўгія скруткі паперы з «магічнымі» пісьмёнамі, вялізныя распісаныя валуны стваралі моцныя акцэнты экспазіцыі, творы на сценах «гучалі» як харугвы, тонкімі прапрацоўкамі вобразаў кранялі невялікія работы, створаныя з дапамогай зямлі, моху, вугалю…».

Я прысутнічаў на адкрыцці гэтай выстаўкі. Не ўсе прынялі творчую манеру мастака, але гэты «павук» ужо тады так моцна выглядаў з глыбінь створанага ім сусвету, што рабілася зразумелым: гэта — сапраўднае.

Ды найбольш талент мастака раскрыўся ў Мінску, куды ён пераехаў у 1999 годзе. Адна за адной з'яўляліся новыя работы. Экспанаваліся ў Нацыянальным мастацкім музеі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, у прыватных галерэях на радзіме і за мяжой — Маскве, Лондане, Дрэздэне…

А Сяргей заставаўся тым жа — энергічным, усмешлівым, гасцінным. Не раз мы пілі гарбату ў яго майстэрні, размаўлялі на самыя розныя тэмы.

Некаторыя лічылі яго надта рацыянальным, надта арганізаваным, без «адрыву і адлёту», раптоўнага азарэння. Але ў глыбіні творчасці Цімохава за гэтай знешняй рацыянальнасцю хавалася глыбокае філасофскае асэнсаванне існага і вечнага, якое так рана паклікала да сябе.

І ўзіраецца ён у нас са сваіх палотнаў, ловіць погляды тых, хто яго ведаў, і тых, хто ўпершыню далучаецца да яго творчасці.

І гучаць наўздагон паэтычныя радкі яго сябра і калегі Рыгора Сітніцы:

*Не можа жывое зрабіцца нічым,*
*Душа пустатою зрабіцца не можа:*
*І, каб жа хоць неяк табе памагчы,*
*Шапчу наўздагон: «Пашкадуй яго, Божа».*

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Прысвячэнне Агінскаму

**Гэтымі днямі Палац мастацтва Мінска расчыніў дзверы для ўсіх прыхільнікаў творчасці Міхала Клеафаса Агінскага.**

Слынны кампазітар і музыкант, выдатны дзяржаўны дзеяч і дыпламат, 250-годдзе якога святкуецца сёлета, — надзвычай прыцягальная постаць для творчага асэнсавання і даследавання пакінутай ім культурнай спадчыны. 2015 год аб'яўлены ЮНЕСКА годам Міхала Клеафаса Агінскага, што падкрэслівае яго значнасць у сусветнай мастацкай культуры. У 2011 годзе Нацыянальны банк выпусціў залатую манету «Міхал Клеафас Агінскі», у вёсцы Залессе Смаргонскага раёна працуе музей-сядзіба. З нагоды адметнай для Беларусі падзеі мастацкая супольнасць зладзіла выстаўку «Паланэз», якая прэзентуе работы знакамітых беларускіх мастакоў, а таксама маладых творцаў.



*Ларыса Зарубіна «Музыка Залесся. Маёнтак Агінскага», 2015 г.*

Жыццё выбітнага дзеяча, авеянае рамантычным духам, спалучанае з гераікай змагання, заўсёды прыцягвала ўвагу беларускіх творцаў. Узгадаем эсэ Уладзіміра Караткевіча «Песня Паўночных Афін», оперу Алега Залётнева «Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт», дакументальны фільм «Паланэз ля мінор» рэжысёра Віктара Дашука… Дарэчы, знакаміты паланэз паслужыў эмацыянальнай дамінантай у мастацкім фільме для дзяцей «Паланэз Агінскага» рэжысёра Льва Голуба.

Лейтматывам выстаўкі ў Палацы мастацтва стаў пранікнёны, напоўнены любоўю да Бацькаўшчыны сусветна вядомы музычны твор «Развітанне з Радзімай». Музыка паланэза нібы ахінае экспазіцыйную прастору — здаецца, літаральна гучыць у лірычных беларускіх пейзажах і вытанчаных дэкаратыўных кампазіцыях, прачытваецца ў асацыятыўна-сімвалічных палотнах, набірае моц у рытмічных лініях арт-аб'ектаў.



*Віктар Варанкевіч «Партрэт Агінскага», 2015 г.*

Экспазіцыя зацікавіць шырокае кола наведвальнікаў, бо прэзентуе розныя віды выяўленчага мастацтва: жывапіс, графіку, скульптуру, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, а таксама дызайн. Прадстаўлена каля 250 работ больш як 60 аўтараў.

**Таццяна ШЫМУК**

# Сімфонія колераў

**У XVII стагоддзі вядомы вучоны і фізік Ісаак Ньютан выказаў ідэю пра тое, што кожнаму гуку адпавядае пэўны колер: «до» — чырвоны, «рэ» — аранжавы, «мі» — жоўты, «фа» — зялёны і г. д. Аднак уменне бачыць музыку ў колеры і, наадварот, чуць мелодыку адлюстравання ў гуках даецца не кожнаму. Такім універсальным дарам «колерамузыкі» валодаў выдатны дзеяч мастацтва XX стагоддзя, літоўскі кампазітар і мастак Мікалоюс Канстанцінас Чурлёніс.**

— Цікавасць да творчасці Чурлёніса перадаецца з пакалення ў пакаленне, — адзначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літвы ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус падчас адкрыцця выстаўкі рэпрадукцый «Зорны шлях» Мікалоюса Чурлёніса ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. — Творчая спадчына майстра — адзін з мастоў, які праз пазнанне мастацтва злучае Беларусь і Літву.



*«Саната VI» (Саната зорак), 1908 г.*

Сёлета спаўняецца 140 гадоў з дня нараджэння Мікалоюса Чурлёніса (1875 — 1911). Практычна ўся творчая спадчына мастака прадстаўлена ў Нацыянальным мастацкім музеі імя М. Чурлёніса ў Каўнасе. З-за крохкай тэхнікі выканання — пастэль або тэмпера на паперы або кардоне — паказ арыгінальных твораў за межамі краіны немагчымы. Таму экспазіцыйную прастору выстаўкі «Зорны шлях» склала 26 рэпрадукцый (гэта 12 твораў з цыкла «Задыяк», санаты, прэлюдыі) і 16 фотакопій фатаграфій М. Чурлёніса з альбома «Анапа. 1905» (у Мінску дэманструюцца ўпершыню).

У гісторыі сусветнага жывапісу творы М. Чурлёніса займаюць асаблівае месца. Музыкант і мастак, ён зрабіў спробу злучыць абодва віды мастацтва ў адно: лепшыя творы майстра хвалююць менавіта «музычным жывапісам». «Саната», «Фугі», «Прэлюдыі» — гэтымі тэрмінамі Мікалоюс Канстанцінас называе свае жывапісныя творы, унутраная структура якіх пабудавана па законах развіцця музычных кампазіцый. Ён нібы «спявае» свае фантастычныя карціны, надзяляючы іх пяшчотнымі фарбамі, узорамі ліній, мудрагелістай і незвычайнай архітэктонікай. «Калі ахапіць творчасць мастака цалкам, адзіным поглядам, — піша гісторык мастацтваў Марк Эткінд, — яна паўстане своеасаблівай жывапіснай сімфоніяй».

У мастацтве Мікалоюс Чурлёніс адным з першых звярнуўся да «касмізму». Чалавек — не толькі насельнік планеты Зямля, але і жыхар усяго космасу. Дзякуючы творчаму прасвятленню майстра глядач становіцца сведкам стварэння зорак і планет з першароднага хаосу, пераносіцца ў іншыя прасторы і вымярэнні, датыкаецца да дзіўнага сусвету Святла і Гармоніі. «Сапраўдны мастак — той, хто бачыць не адзін толькі першы план свету, але і тое, што ўтоена за ім, тую невядомую далеч, якая для звычайнага позірку заслонена наіўнай рэчаіснасцю, хто слухае сусветны аркестр і паўтарае яго, без фальшы», — сцвярджаў рускі паэт Аляксандр Блок. Гэтыя словы ў поўнай меры можна аднесці і да Мікалоюса Канстанцінаса.



*«Саната VII» (Саната пірамід), 1909 г.*

За сваё нядоўгае, але яркае і насычанае жыццё ён стварыў больш як 300 жывапісных работ у стылістыцы мадэрну і ў духу «касмізму», каля 400 музычных твораў, якія спалучаюць уплыў сімвалізму з элементамі народнага мастацтва, цытатамі і рэмінісцэнцыямі японскай, егіпецкай, індыйскай культур.

Экспанаванне выстаўкі працягнецца да 18 кастрычніка.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Намеснік галоўнага рэдактара**
**Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 1.10.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1907.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1491 г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12